№ 25 (862) 9 ліпеня 2014 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Хрустальны сасуд

У новым музеі Вялікай айчыннай ёсць зала Лукашэнкі. **Старонка 2**

Сяргей Гудзілін

## Міністр Снапкоў

Выкупіў у ЖРЭА апартаменты коштам $500 тысяч. Старонка 5.





## Лілія Ананіч

Гісторыя настаўніцкай дачкі з пушчанскага краю. Старонкі 6-7.

# У новым музеі Вялікай Айчыннай ёсць зала Лукашэнкі

Першы «не святочны» тыдзень для новага будынка музея Вялікай Айчыннай вайны ля стэлы «Мінск — горад-Герой» пачынаўся даволі ажыятажна. Каля 10-й раніцы ля касаў ужо былі невялікія чэргі. З групавой экскурсіяй праз турнікеты праходзілі турысты з Віцебска. Цана квіткоў: 20 тысяч для школьнікаў і студэнтаў, 40 — для дарослых, 160 — экскурсіі з гідам. Для ахвотных рабіць фотавідэаздымкі прадугледжана даплата ў 10 тысяч беларускіх рублёў.

Перад уваходам у аглядныя залы, якіх у новым музеі дзесяць, наведнікаў сустракае ніша з капсулай паслання да нашчадкаў, якую ўласнаручна закладаў Аляксандар Лукашэнка, і вялікі экран з трансляцыяй святочнага шэсця на Дзень Перамогі па праспекце Незалежнасці. Уваход у першую залу стылізаваны пад сцены Брэсцкай крэпасці. Ветлівы персанал, сучаснае афармленне стэндаў і іх асвятленне, фактурныя сцэны баявых дзеянняў і экспанаты з фігурамі людзей у натуральную велічыню — важныя элементы сучаснага музея, які разлічвае на наведвальнасць. На ўваходзе не аказалася толькі бясплатных буклетаў з планам-схемай аглядных залаў...

Але планіроўка музея настолькі простая для наведнікаў, што заблукаць тут складана. Чатыры паверхі ўладкаваны так, што наведнік амаль увесь час ідзе па коле ад паверха да паверха. Для людзей сталага веку і інвалідаў прадугледжаны ліфты. На апошнім, пятым, паверсе месціцца ўрачыстая зала пад купалам — сімвал мірнага неба. Тут побач месціцца выхад да стэлы «Мінск — горад Герой». Подпісы да экспанатаў і стэндаў дублююцца на трох мовах: беларускай, рускай і англійскай. На вялікіх панэлях дэманструюцца хронікі і мастацкія фільмы пра Вялікую Айчынную вайну.



Асобная аглядная зала прысвечана перыяду фашысцкай акупацыі ў Беларусі. Некалькі экспанатаў з выявамі «Пагоні» і бел-чырвона-белых сцягоў знаходзяцца на стэндах беларускіх калабаранцкіх рухаў і фармаванняў.

Пасля прагляду асноўнай, «ваеннай», экспазіцыі наведнікаў чакае сюрпрыз — дзясятая зала «Нашчадкі Вялікай Перамогі». Выходзячы з музея, наведнікі могуць яе і не заўважыць. Налепленыя на сцены аркушы са стрэлкамі «Зала №10» пэўнасці не дадаюць. На цэнтральным чырвоным стэндзе размешчаныя чатыры вялікія здымкі Лукашэнкі, абапал — стэнды славы і надзвычайных ведамстваў краіны. Ёсць тут стэнды з партрэтамі кіраўнікоў МУС і КДБ. Верагодна, што гэтая экспазіцыя музея будзе змяняцца часцей за ўсё.

Калі абагульняць ўражанні, то можна лічыць, што музей са старога будынка проста пераехаў у новы. Сучаснае тэхнічнае аздабленне, дызайн каляровых макетаў і мультымедыйныя праекцыі толькі асвяжылі погляд на Вялікую Айчынную і Другую сусветную войны. Але каноны савецкага падыходу да вайны захаваліся некранутымі. Цяпер пра гэта расказваюць па-сучаснаму і ў іншым месцы Мінска.

**Сяргей Гудзілін, фота аўтара**

# Кіраўнік «Белнафтахіма» адпраўлены ў адстаўку

Паводле чутак, **Ігар Жылін** арыштаваны.

Канцэрн «Белнафтахім» застаўся без старшыні. Пастановай урада №631 ад 30 чэрвеня без указання прычынаў быў вызвалены ад пасады Ігар Жылін. Фактычна, адстаўка адбылася задняй датай, бо яшчэ 1 ліпеня ад імя Жыліна работнікаў галіны віншавалі з Днём незалежнасці, і супала з прыездам у Беларусь прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна.

Чысты прыбытак «Гродна-Азота»

2007 — $43 мільёны

2008 — $35 мільёнаў

2009 — $6 мільёнаў

2010 — $13 мільёнаў

2011 — $172 мільёны

2012 — $62 мільёны

2013 — $3 мільёны



Ігар Жылін кіраваў прадпрыемствам у 2009-2011 гадах.

Топ-менеджар сышоў з пасады — і знік. Паводле інфармацыі «Хартыі'97», 1 ліпеня Жылін быў арыштаваны і змешчаны ў СІЗА. За наступны тыдзень гэтая інфармацыя не пацвердзілася, але і не абвергнулася.

Зрэшты, арышт кіраўнікоў «Белнафхіма» адбываецца не ўпершыню. У 2007 годзе «па падазрэнні ў крадзяжы і за злоўжыванне службовым становішчам» спецслужбамі былі затрыманы тагачасны топменеджар Аляксандр Бароўскі.

### Запрошаны госць

Ігар Жылін з'явіўся ў Беларусі ў сярэдзіне 2009 года. Аляксандр Лукашэнка паклікаў 68-гадовага расейца кіраваць «Гродна Азотам». Ягоную кандыдатуру нібыта прапанавалі патэнцыйныя інвестары.

Прадпрыемства рыхтавалася да прыватызацыі, і перад Жылінам ставілася задача апрымізаваць яго. Праца была паспяховай (глядзі табліцу прыбытковасці кампаніі).

А ў пачатку 2011 года Жылін пайшоў на павышэнне. Лукашэнка перавёў яго ў Мінск кіраваць «Белнафхімам».

Расійскія СМІ прыпісвалі менеджару і экспарт «раставаральнікаў», які прынёс Беларусі некалькі мільярдаў даляраў, і канфлікт «Беларуськалія» з «Уралкаліем».

У пачатку 2013 года Жылін быў удзельнікам канфлікта з віцэ-прэм'ерам Уладзімірам Сямашкам. Лукашэнка фактычна стаў на бок расейца, заявіўшы, што Сямашка кіруецца асабістымі антыпатыямі і мае дыктатарскія замашкі.

Хоць за дзень да таго выказаў гатоўнасць адправіць Жыліна ў турму — калі той не разбярэцца з карупцыяй на прадпрыемствах канцэрна. Тады пагрозы так і засталіся пагрозамі.

### Грамадзянін Беларусі

Расейскі менеджар пераехаў у Гродна ў 2009 годзе. Паводле заканадаўства, для атрымання беларускага грамадзянства ў агульным парадку трэба пражыць у краіне сем гадоў. Выключэнне можа быць зроблена для асобаў, якія маюць заслугі перад краінай ці валодаюць кваліфікацыяй, якая запатрабаваная ў дзяржаве. Так ці інакш, але па стане на 2012 год Жылін ужо быў грамадзянінам Беларусі.

Пасля пераезду ў Мінск перад менеджарам паўстала жыллёвае пытанне. Хоць Жылін і стаў кіраўніком «Белнафтахіма», сталічную службовую кватэру яму купляў «Гродна-Азот». Пяціпакаёвыя апартаменты плошчай пад 200 м² на вуліцы Багдановіча каштавалі дзяржаўнаму прадпрыемству $350 тысяч.

З цягам часу Жылін задумаўся і пра сваё жыллё. Ён стаў адным з атрымантаў элітнай зямлі ў Вяснінцы («Дразды-2»). На маёмасць пакуль не накладзены арышт.

**Ягор Марціновіч**

### Самае чытанае на nn.by за 2-8 ліпеня

1. Украінскія войскі затрымалі барысаўку Наталлю Красоўскую, што ваявала на баку баевікоў
2. Лукашэнка прамаўляе пра незалежнасць па-беларуску ВІДЭА
3. «Камерсант»: На сустрэчы Пуціна і Лукашэнкі грымнула фанаграма з «ла-ла-ла-ла»
4. Парашэнка асадзіў хамку з Партыі рэгіёнаў ВІДЭА
5. Філосаф Міхаіл Баярын распрацаваў новы беларускі шрыфт
6. Доўгачаканае лета наступіць у Беларусі
7. Новы міністр абароны Украіны паабяцаў правесці парад перамогі ў Крыме
8. Найноўшая гісторыя Беларусі: як ствараўся «Белы легіён» ФОТЫ, ВІДЭА
9. Фота з Леанарда Дзі Капрыё прымусіла мужчыну скончыць жыццё самагубствам
10. Дацэнту Акадэміі кіравання далі адлуп ВІДЭА

# Украінцы вызвалілі Славянск. Што далей?

У адным з агрэсіўна-прапагандысцкіх артыкулаў сайта Imperiya.by натыкнуўся на цікавае прызнанне: «Укры очень боятся потерь своей живой силы» (правапіс арыгінала).

Тактыка ўкраінцаў грунтуецца на аблозе і паступовым адстрэле апорных пунктаў баевікоў. Авіяцыя і «Грады» ўжываюцца мала, каб мінімізаваць страты мірнага насельніцтва. Дый грошай на авіяцыю ва ўкраінцаў няшмат.

Такім спосабам аблога Славянска заняла ва ўкраінскай арміі амаль тры месяцы. Пасля спынення перамір'я 1 ліпеня за два дні яны сціснулі кола вакол Славянска, а за чатыры дні, пасля падзення пасёлка Мікалаеўка, канчаткова яго замкнулі. На пяты дзень, уначы з 4 на 5 ліпеня, тысяча баевікоў пайшла на прарыў і збегла ў густанаселены Данецк.

Маскоўскія СМІ знізілі голас. Яны вінавацяць лідара баевікоў Стралкова. На расійскіх сайтах шукаюць вінаватых. Ці можна гаварыць пра пералом у вайне? Пра гэта мы запыталіся эксперта ў сілавой тэматыцы, стваральніка аналітычнага цэнтра Belarus Security Blog Андрэя Паратнікава.




## Расстаноўка сілаў, задзейнічаных на Данбасе

**Украінскія войскі**
Імаверна, каля 35 тысяч чалавек. Неабмежаваная колькасць артылерыі і беспілотнікаў. Абмежаваная колькасць танкаў. Невялікая колькасць дзейных самалётаў і верталётаў.

**Баевікі**
Імаверна, каля 12 тысяч чалавек. Неабмежаваная колькасць стралковай зброі, гранатамётаў, зенітна-ракетных комплексаў. Абмежаваная колькасць БТРаў і БМД, некалькі дзясяткаў танкаў і самаходак «Нона».

**Карта баявых дзеянняў з расійскіх крыніц.**
Жоўтым — тэрыторыя пад кантролем баевікоў.
Зялёным — тэрыторыя, вызваленая ўкраінскімі войскамі з 1 да 7 ліпеня.
Чырвоныя кропкі — сілы баевікоў.
Сінія кропкі — сілы ўкраінскай арміі, СБУ і МУС.

**— Як па-Вашаму, ці падзенне Славянска азначае канчатковы пералом у падзеях на Данбасе?**

— Адназначна не. Гэта важны этап. Але важны галоўным чынам дзякуючы свайму сімвалізму. Тэрарысты называлі Славянск сваім Сталінградам. І вось, прыйшлося ўцякаць. Другі важны момант — гэта тое, што ўкраінскае войска фактычна завязла значнай часткай сваіх сілаў пад горадам. Таму яго вызваленне дае ўкраінскаму камандаванню дадатковыя сілы для аперацый на іншых кірунках.

**— Як далей могуць развівацца падзеі? Украінцы паспрабуюць атачыць і ўзяць штурмам Данецк і Луганск ці паспрабуюць замкнуць вялікае кола ўздоўж расійскай мяжы і будуць чакаць?**

— На гэта дакладна могуць адказаць 4 чалавекі: прэзідэнт Украіны, міністр абароны Украіны, начальнік Генштаба ЗСУ і камандуючы Нацгвардыяй. Я спадзяюся, што ўкраінцы пераможуць эмоцыі і паспрабуюць дзейнічаць рацыянальна. На маю думку, трэба адкрыць калідор для выхаду ўсіх ахвотных у Расію. І каб выходзілі абавязкова са зброяй. Думаю, у іх будуць пытанні да павяжанага Уладзіміра Уладзіміравіча. А аўтамат Калашнікава дадасць іх пытанням дадатковую вагу. Як гэта «кавалак Русского Міра» «жыдабендерам на паруганне» аддалі. Карацей, у хлопцаў ёсць «непанятка». Далей, палявым камандзірам сярэдняй рукі можна прапанаваць грошы і выезд у любую краіну свету. Мільён даляраў — невялікая плата за мір. Дый камандзіраў тых не шмат. Хай валяць. Толькі спачатку здадуць свае банды і сальюць інфармацыю адпаведным украінскім службам.



Андрэй ПарАтнікаў (прозвішча вымаўляецца з націскам на другое «а», Паратнікаў.) Нарадзіўся ў 1978 у Бабруйску. Працаваў у Следчым апараце МУС. Стваральнік аналітычнага цэнтра Belarus Security Blog.

**— Гэтую вайну кіраўнік НАТА Расмусэн назваў «вайной новага тыпу». Якія высновы можна зрабіць пра яе? Як яна працякае?**

— Першая выснова: разлічваць на ЕС у крызіснай сітуацыі — сябе не паважаць. Там ёсць асобныя краіны (Балтыя, Польшча, Румынія, скандынавы). З імі і можна мець справы і шукаць супольны інтарэс.

Другая выснова: пад ударам знаходзіцца не толькі матэрыяльная інфраструктура, але і псіхіка грамадзянаў краіны-ахвяры. З гэтым таксама трэба нешта рабіць. І першае — супрацьпастаўць моцную ідэю. У дадзеным выпадку — незалежнай сабornай Украіны.

Трэцяя выснова: рана спісваць танкі, у прыватнасці, і класічнае войска, увогуле. Сітуацыя ва Украіне прадэманстравала, што колькасць (войска і тэхнікі) не менш важная за якасць. Прафесійнае войска, як аказалася, тупіковы варыянт для кантынентальнай краіны. «Невялікая мабільная» армія, аб якой любіць паразважаць А. Лукашэнка, спрацуе толькі супраць такой жа маленькай. Альбо вялікай, калі на тваім баку ландшафт. Як тое было ў Афганістане ці ў Фінляндыі.

Чацвёртая і галоўная выснова: асноўны рэсурс краіны — гэта грамадзяне-патрыёты. Якія ў цяжкі момант здольныя самі арганізавацца і пачаць дзейнічаць. Прыклад батальёна «Данбас» вельмі красамоўны, як і ў добраахвотнікаў-гвардзейцаў. Нацыянальны дух у барацьбе з больш ворагам — галоўная цвярдыня і апірышча. Яго трэба гадаваць увесь час.

**— Якая была роля расійскіх сілаў спецпрызначэння ў данбаскіх падзеях?**

— Хутчэй трэба казаць пра ролю спецслужбаў. Увогуле, першы шэраг абароны (ці агрэсіі) дзяржавы зараз — гэта эфектыўныя спецслужбы. Спецслужбы — гэта вочы. Сляпому нават вялікія кулакі не дапамогуць.

**— Чаму ўкраінцы нясуць такія вялікія страты — загінула ўжо больш за 300, а паранена, імаверна, больш за тысячу ўкраінскіх вайскоўцаў?**

— Гэта адносна невялікія страты. Чаму? Адказаў шмат. Ніхто не рыхтаваўся ваяваць з Расеяй. Ніхто ўвогуле не рыхтаваўся там ваяваць. 23 гады войска раскрадалі. Страшэнная карупцыя на ўсіх узроўнях. І здрада з самага верху. Першапачаткова ва ўкраінцаў нават сувязі не было. Таму ва ўмовах татальнай дэградацыі дзяржавы гэтыя страты яшчэ мінімальныя.

**— Чаму ўсё-такі Расія не паслала войскі ў адкрытую, чаму не паспрабавала ўстанавіць беспалётную зону прынамсі?**

— Расеі няма чым ваяваць. І кім. На піку яны сабралі ў сухапутных сілаў, авіяцыі і флоту групоўку 220 тыс. Відаць, гэта амаль ўсё, што ёсць. Можна дабавіць яшчэ памежнікаў, ФСБ, Унутраныя войскі. Але разам там будзе не больш за 300 тыс. сухапутных сілаў.

Ёсць разлікі брытанскіх адмыслоўцаў: для кантролю над акупаванай тэрыторыяй на кожны мільён мясцовага насельніцтва трэба мець 20—25 тысяч уласнага акупацыйнага войска. Такім чынам, для акупацыі ўсёй Украіны трэба 900 тыс. — 1,15 млн сухапутнага войска. Для акупацыі Данбаса —120—150 тыс. А трэба ж яшчэ Крым трымаць і на фронце супраць украінскага войска мець сілы. Прыйшлося б праводзіць мабілізацыю. Але цяпер, у мірны час, укланістаў у Расеі больш, чым прызываецца ў войска. «Русь Святую» ўсе там любяць, але ж чамусьці служыць ёй асабліва не хочуць. Такая загадкавая расейская душа. Дарэчы, нястача людскога рэсурсу вымусіла і заходнікаў «згарнуць вуды» ў Іраку і Афганістане. Так, у тых прафесійнае, добра ўзброенае войска. Але яго мала. Фізічна мала. Высновы з гэтага пакуль зрабілі толькі палякі.

**— Калі што, Беларусь можа разлічваць на нейкіх саюзнікаў?**

— У гэтым свеце кожны сам за сабе. І разлічваць мы можам толькі на ўласныя сілы. Ніякія Захады і Расеі, калі што, нас не абароняць. Беларускаму нацыяналізму — такому, як ён быў сфарміраваны ў 1900-20-я гады мінулага стагоддзя ў якасці дзяржідэалогіі, альтэрнатывы не было, няма і не будзе. Толькі ён у стане гарантаваць нашу моц і мабілізацыю грамадства, калі тое, барані божа, спатрэбіцца.

Гутарыў Мікола Бугай

# У рублях… у растэрміноўку

**Міністр Снапкоў выкупіў у ЖРЭА апартаменты коштам $500 тысяч.**

У папярэднім нумары «Нашай Нівы» (№24 ад 25 чэрвеня) мы расказвалі пра элітнае жыллё ў Драздах на вуліцы Піянерскай. Чатыры шматкватэрныя дамы былі пабудаваныя ў канцы 2000-х, забудоўшчыкам быў «Трэст Прамбуд». Элітныя кватэры прадаваліся па камерцыйнай цане, таму іх гаспадарамі перадусім станавіліся бізнэсмены.

Нашу ўвагу прыцягнулі дзве кватэры. Як паведамлялася раней, у кастрычніку 2010 спікер палаты прадстаўнікоў Уладзімір Андрэйчанка загадкавым чынам прыватызаваў трохпакаёўку плошчай 114 м² па адрасе Піянерская, 7.

Аднак сярод гаспадароў ёсць яшчэ чыноўнік пры высокай пасадзе. Адна з самых вялікіх кватэр у доме — чатырохпакаёвыя апартаменты плошчай 134 м² — належыць міністру эканомікі Мікалаю Снапкову.

Сітуацыя з ягоным жыллём не менш заблытаная, чым у гісторыі Андрэйчанкі.

У студзені 2009 года Снапкоў, на той момант 40-гадовы віцэ-губернатар Магілёўскай вобласці, пераязджае ў Мінск. Яго паклікалі працаваць намеснікам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта. Дарэчы, паводле ўказа «Аб стварэнні спецыяльнага службовага жыллёвага фонда», гэта не тая пасада, на якой ён адразу мусіць атрымаць службовую кватэру.

Снапкова прапісалі на тэрыторыі рэзідэнцыі прэзідэнта «Дразды», і ён пачаў шукаць, як вырашыць сваё жыллёвае пытанне.

І ўжо праз паўгода працы Снапкоў набыў агромністую чатырохпакаёўку ў доме на вуліцы Піянерскай, 7. Паводле выпіскі з Адзінага дзяржаўнага рэгістра нерухомасці, у ліпені 2009 года чыноўнік узяў элітнае жыллё ў іпатэку. У гэтым не было б нічога дзіўнага: гаспадары дзясяткаў дарагіх кватэр у Мінску куплялі нерухомасць, папярэдне ўзяўшы валюту пад працэнт у банку. Пакуль яны цалкам не вернуць грошы, праваўласнікам кватэры лічыцца банк.

Але ў Снапкова сітуацыя зусім іншая. Па-першае, іпатэку ён афармляў не ў банку, а ў... ЖРЭА. Як пазначана ў дакументах, праваўласнікам ягоных апартаментаў пакуль што з'яўляецца ЖРЭА Цэнтральнага раёна Мінска.




**Дамы па Піянерскай маюць утульны ўнутраны дворык. На фота: від з пад'езда Мікалая Снапкова.**




**Мікалай Снапкоў**

Нарадзіўся ў 1969 у Магілёве. Закончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію (1991), Акадэмію кіравання (2001). У 1990—1994 працаваў эканамістам, старшым эканамістам, бухгалтарам у калгасах Магілёўшчыны і Гродзеншчыны. У 1994—1996 — эканаміст, галоўны эканаміст, намеснік кіраўніка ў дрыбінскім аддзяленні «Белаграпрамбанка», у 1996—2000 — намеснік старшыні Горацкага райвыканкама. У 2000—2009 — начальнік фінансавага ўпраўлення, а пасля намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкама. У 2009 — намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта, са снежня 2009 — міністр эканомікі.



...сударственной регистрации создания: 01.04.20...
...ата последней государственной регистрации изменения: ...

**Право собственности**
Идентификационные сведения о правообладателе: Снопков Николай Геннадьевич, 14.09.1969, идентификационный номер ..., гражданство - Республика Беларусь, Территория резиденции Президента "Дрозды", д. 32
Доля: 1/1
Дата государственной регистрации: 30.07.2009 12:40:00
Основание государственной регистрации: Договор купли-продажи (Государственная нотариальная контора Центрального района г. Минска) от 29.07.2009 №2-679; Акт приемки-передачи от 29.07.2009 №б/н

**Ипотека**
Описание права, ограничения (обременения) прав: Ипотека квартиры
Идентификационные сведения о правообладателе: Государственное унитарное предприятие "Жилищное ремонтно-эксплуатационное объединение Центрального района г.Минска", УНП 100055817, юридический адрес г.Минск, ул. Комсомольская, д.20А
Доля: 1/1
Срок действия: с 30.07.2009
Стоимость обязательств или данные о порядке и условиях ее определения: 320607737 BYR
Дата государственной регистрации: 30.07.2009 12:40:00
Основание государственной регистрации: Договор купли-продажи (Государственная нотариальная контора Центрального района г... от 29.07.2009 №2-679; Акт приемки-передачи от 29.07.2009 №...

**Примечания:**
Рассрочка оплаты на 5 лет.

«Мікалай Снапкоў — чалавек новай генерацыі. Можа, ён і атрымлівае заўвагі праз тое, што яго прапановы і ідэі не зусім камфортна кладуцца на матрыцу цяперашніх эканамічных асноў. Але яго разважанні прымушаюць думаць людзей, якія звыкліся працаваць у раней існуючых умовах».

**Прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч**

Па-другое, купля для Снапкова была аформленая растэрміноўкай на пяць гадоў. Умовы ягонай дамовы невядомыя, але «растэрміноўка» звычайна ва ўмовах беларускай інфляцыі — гэта атракцыён нябачанай шчодрасці.

Кошт іпатэкі склаў 320 мільёнаў рублёў. У пачатку выплат, у ліпені 2009, курс быў каля 3000 рублёў. А цяпер ён ужо 10200. Адчуваеце розніцу?

Ужо ў гэтым месяцы Снапкоў разлічыцца з ЖРЭА і стане паўнавартасным гаспадаром сваіх апартаментаў.

**Ягор Марціновіч**




**Працяг тэмы**

## Чыж узяў з Філарэта за катэдж $25 тысяч

Адзін з катэджаў у элітным пасёлку «Лагожаск», які забудоўвае кампанія «Трайпл» мільянера Юрыя Чыжа, належыць мітрапаліту Філарэту (мірскае імя Кірылу Вахрамееву). Падрабязнасці гэтай гісторыі былі апублікаваныя ў нумары «Нашай Нівы» (№23 ад 18 чэрвеня 2014 года).

Нагадаем, закансерваваная будоўля была прададзеная праваслаўнаму святару вясной 2012 года. А пасля ён атрымаў рашэннем Лагойскага райвыканкама зямлю пад збудаваннем. На ёй паўстаў малітоўны дом, своеасаблівы катэджцарква, аформлены ў прыватную ўласнасць Філарэта.

«Наша Ніва» даведалася, колькі каштавала ўгода. У рэестры цэн дзяржаўнага зямельнага кадастра пазначана, што 4 красавіка 2012 года ў Лагойскім раёне быў прададзены толькі адзін дом. Дый знаходзіцца ён якраз у Лагожаску. За гэтую закансерваваную будоўлю пакупнік заплаціў 210 мільёнаў рублёў, гэта ўсяго каля $26 тысяч па тагачасным курсе даляра.

Гэта значна ніжэй за рынкавую цану. Напрыклад, за месяц да ўгоды Філарэта іншая закансерваваная будоўля была прададзеная за $90 тысяч.

**ЯМ**

# Ігар Пцічкін, які памёр у СІЗА, ужываў наркотыкі

Эксперты ўсё яшчэ **высвятляюць прычыну смерці.**

21-гадовы Ігар Пцічкін памёр у мінскім СІЗА на Валадарскага 4 жніўня 2013. Хлопец мусіў адбыць трохмесячны арышт: сеў за руль аўто, хоць быў пазбаўлены правоў. Але ўжо праз пяць дзён ён памёр. На сустрэчы з начальнікам ізалятара родным Ігара паведамілі, што ў яго пачалося «псіхаматорнае ўзбуджэнне». І яго змясцілі ў медыцынскую часць, «дзе даваўся фіксаваць яго мяккімі рамянямі». Калі ж цела аддалі сям'і, на ім было шмат сінякоў. Тады і загаварылі, што хлопца перад смерцю білі. Следчыя гавораць пра вострую сардэчную недастатковасць, выкліканую зусім не ўжываннем сілы. Цяпер, праз сем месяцаў пасля эксгумацыі, агучылі вынікі паўторнай экспертызы. Для родных яны не суцяшальныя.

«Следствам атрыманы доказы сістэматычнага ўжывання ім сумесяў для палення, якія ўтрымліваюць наркатычныя і псіхатропныя рэчывы, у перыяд з 2011 па 2013. У выторчасці аднаго з раённых аддзелаў Следчага камітэта Мінска расследуецца крымінальная справа пра псіхатропныя рэчывы, па якой Пцічкін апазнаны як збытчык. Доўгі час Пцічкін ужываў алкаголь, пра што сведчаць матэрыялы справы і звесткі з базы правапарушэнняў, паводле якіх ён пяць разоў кіраваў транспартным сродкам у стане алкагольнага ап'янення, — паведаміла прадстаўнік СК Юлія Ганчарова. — Устаноўлена, што праз некалькі дзён знаходжання ў следчым ізалятары ў яго пачалі праяўляцца і ўзмацняцца прыкметы вострага псіхічнага расстройства, што праяўлялася ў галюцынацыях, трызненні, адмове ад ежы і пітва, маніі пераследу. Па дадзенай прычыне апошні быў шпіталізаваны ў медыцынскую частку ізалятара, дзе праз нейкі час наступіла яго смерць».

Праўда, родныя не вераць, што Ігар быў наркаманам. І настойваюць на версіі са збіццём. Па словах жа Ганчаровай, фактаў ужывання сілы супрацоўнікамі ізалятара і іншымі зняволенымі не выяўлена.

Яшчэ па выніках першай праверкі была заведзена крымінальная справа на фельчара медчасткі за неналежнае выкананне прафесійных абавязкаў, што прывяло па неасцярожнасці да смерці. Расследаванне працягваецца. Прызначаны яшчэ шэраг дадатковых экспертыз. «Вынікі выявяць прычыны ўзнікла ў Пцічкіна псіхічнага расстройства і яго смерці, а таксама правільнасці аказання дапамогі медыцынскім персаналам следчага ізалятара», — адзначыла Юлія Ганчарова.



Перад гэтым сястра памерлага Ірына расказала «НН», што брат стаў фігурантам расследавання па спайсах. «Выклікаюць у Следчы камітэт сяброў Ігара, цікавяцца ў іх, на якіх машынах брат ездзіў і куды. Яны паведамілі, што на Андрэя Н. завялі крымінальную справу. І ён нібыта сведчыў, што Ігар прадаваў спайсы. Але мы адшукалі Андрэя, і ён сказаў, што праходзіць толькі як сведка. Мой брат мёртвы — і на яго можна сказаць што заўгодна».

Спайсы — гэта сінтэтычныя сумесі для палення. З выгляду — тая ж табака (трава), на якую нанесена псіхаактыўнае хімічнае рэчыва. Яно выклікае хуткае прывыканне. А адмова прыводзіць да псіхозаў. Сімптомы ў Пцічкіна, якія назвалі ў Следчым камітэце, медыкі лічаць магчымымі пры адмове ад ужывання спайсаў.

### Дзяржава ў адказе за зэкаў

У выпадку з Ігарам Пцічкіным у Следчым камітэце заганны лад жыцця хлопца ставяць у прамую залежнасць з яго смерцю. У той час як прычыну трэба шукаць і ў турме. Праваабаронца Павел Сапелка займаецца выпадкамі парушэння правоў зняволеных, у тым ліку смерцямі за кратамі. Ён адзначае, што ў Беларусі не склалася цывілізаванага падыходу да разумення адказнасці дзяржавы за ўтрыманне асуджаных. «Калі дзяржава ўзяла зняволенага пад свой кантроль, то і прыняла на сябе адказнасць за яго жыццё і здароўе. Але няма разумення таго, што агульна прынятыя каштоўнасці і правы, якімі карыстаюцца ўсе без выключэння, распаўсюджваюцца і на зняволеных. Дзяржава павінна разумець сваю адказнасць за выкананне гэтых правоў. Калі гаворка ідзе пра ўразлівых, хворых, залежных ад чагосьці, да іх павінна быць больш уважлівае стаўленне з боку супрацоўнікаў калоніі.

Калі гаварыць пра канкрэтны выпадак, то мне ўсё адно, ці пакутаваў Пцічкін на нейкую хваробу, ці залежаў ад чагосьці. Абавязак дзяржавы — забяспечыць яму такія ўмовы ўтрымання ў турме, каб яны дазволілі яму дажыць да канца тэрміну. Магчыма, Пцічкін, як і тыя, хто таксама памёр у зняволенні, не быў забіты, скажам так, напрамую супрацоўнікамі ізалятара. Але памерлыя не атрымалі своечасовага лячэння».

Праваабаронца адзначае, што правілы абыходжання са зняволенымі рэгламентаваныя заканадаўствам. Нормы слушныя, але іх не заўжды прытрымліваюцца ў месцах пазбаўлення волі. А часам у супрацоўнікаў «няма гуманістычнага падыходу ў тлумачэнні норм права».

«Такія выпадкі не расследуюцца адпаведным чынам. І да вінаватых не ўжываюцца жорсткія меры, якія ў далейшым трымалі іх ад паўтарэння сітуацыі. Супрацоўнікі месцаў пазбаўлення волі мо і не адчуваюць сваю беспакаранасць, але лічаць, што ў выпадку нейкіх праблем сістэма можа стаць за іх сцяной і не дазволіць прыцягнуць да адказнасці. Самі супрацоўнікі, здаецца, нават шчыра лічаць, што маюць права перавышаць паўнамоцтвы», — лічыць Сапелка.

**Сяргей Макарэвіч**




# За смерць дзіцяці адкажа бізнэсмен

19 красавіка дзіця звалілася ў ачышчальнае збудаванне пад Гомелем і патанула. Цяпер заведзена крымінальная справа на службовую асобу фірмы, на тэрыторыі якой здарылася трагедыя. Яе вінавацяць у службовай халатнасці.

«Следствам высветлена, што ачышчальныя збудаванні, якія знаходзяцца на тэрыторыі ТАА «Гомель-Лада», працяглы час не эксплуатаваліся. Аднак аб'ект не быў закансерваваны. Не былі прынятыя меры па ўзвядзенні агароджы, што перашкодзіла б доступу да рэзервуара», — паведаміла прадстаўнік УСК па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава.

У той дзень бацька з сынам заехаў на аўтарынак на 9-ы км Чарнігаўскай шашы. Пакуль мужчына набываў запчасткі, хлопчык адышоў. Праз пэўны час, цела дзіцяці ўбачылі ў вадзе. Дастаць сам бацька яго не здолеў — было глыбока. Давялося выклікаць ратавальнікаў.

**СМ**

# Школьнікі расправіліся са школьнікам

Будуць судзіць **15-гадовых падлеткаў.**

Следчы камітэт завяршыў расследаванне крымінальнай справы аб жорсткім забойстве 13-гадовага хлопчыка ў Бабруйску. Абвінавачваюцца два 15-гадовыя бабруйцы.

Цела школьніка з мноствам пашкоджанняў знайшлі 3 сакавіка ў рацэ Бярэзіна. Падчас расследавання выявіліся шакуючыя падрабязнасці забойства. Падлеткі выпілі і пачалі чапляцца да маладзейшага хлопчыка. Пагражалі яму забойствам, білі, а пасля ўтрымлівалі ў якасці закладніка. А ў выніку на гарадскім пляжы забілі і скінулі ў ваду.

Бабруйчаў абвінавачваюць па артыкуле Крымінальнага кодэкса, за які прадугледжваецца нават расстрэл. Праўда, да непаўналетніх найвышэйшая мера пакарання ў Беларусі не прымяняецца. Падлеткі працягваюць заставацца пад вартай. Справа перададзена пракурору для накіравання ў суд.

**Кастусь Матушыч**

**Цела хлопчыка знайшлі на беразе Бярэзіны.**



СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

## Сцісла

### За недакурак дворнік выбіў вока

Здарэнне адбылося ў Мінску яшчэ 21 сакавіка. Рабочы курыў перад планёркай, а затым кінуў недакурак на зямлю. Гэта пабачыў дворнік. Ён дачакаўся канца планёркі і выказаў усё, што думае. Разгарэўся канфлікт, падчас якога дворнік спачатку ўдарыў рабочага мятлой па баках, а затым ткнуў тупым канцом у левае вока, у выніку чаго тое выцекла. Абвінавачваны знаходзіцца пад вартай. Яго чакае суд.

### Эксгібіцыяніст напаў на настаўніцу

Маладая настаўніца ў Гродне вярталася ўвечары дадому, яе пільнаваў незнаёмы хлопец. Ён зайшоў за жанчынай у пад'езд, дзе спачатку прадэманстраваў палавыя органы, а потым накінуўся на яе і паваліў на зямлю. Настаўніца вырвалася. Цяпер міліцыя высвятляе, ці была гэта спроба згвалтавання. Нападнікам аказаўся 17-гадовы хлопец, раней судзімы за эксгібіцыянізм.

### Пракурор просіць пажыццёвае

Пракурор папрасіў 25 гадоў калоніі для Мікалая Лотыша і пажыццёвае зняволенне для Яўгена Куліка. Маладых людзей судзяць за забойства Таццяны Слонімскай і шэраг крадзяжоў у Мінску (№24). Жанчыну зарэзалі летась з-за машыны, якую прадалі ў Маскве.

### Замкнула злодзея на ключ

У Полацку здзейснены разбойны напад на краму. Зламыснік зайшоў у адну з крамаў на вуліцы Дзяржынскага перад яе закрыццём, узяў прадукты і, паклаўшы іх у пакет, сабраўся сыходзіць. Калі магазінщчыца папрасіла аплаціць тавар, той выхапіў прадмет, падобны на пісталет, і стаў патрабаваць яшчэ і гарэлку. Прадавачка выскачыла з крамы і замкнула дзверы на ключ. Злачынцу затрымалі. Высветлілася, што прадаўцу пнеўматычным пісталетам пагражаў мужчына, якога раней судзілі за рабаванне.

**КМ**

# Лілія Ананіч — гісторыя настаўніцкай

Заменай міністру інфармацыі **Алегу Праляскоўскаму** стала ягоная намесніца.



Новая міністарка інфармацыі Лілія Ананіч.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

У беларускім урадзе яшчэ адна жанчына-кіраўніца. 30 чэрвеня Аляксандр Лукашэнка зацвердзіў на пасадзе міністра інфармацыі Лілію Ананіч. «Я вельмі спадзяюся, што вы ведаеце ўсе недахопы і паставіце міністэрства так, каб потым не было сорамна ні вам, ні краіне», — наказаў ёй кіраўнік дзяржавы.

«Памаўчым...», «Хіба бывае сорамна, калі смешна?», «Ды на гэтыя твары страшна глядзець! Што яны могуць змяніць у лепшы бок? Правільна, нічога. Толькі забароны, якія замінаюць жыць звычайным людзям», — вось тры самыя папулярныя каментары пад навіной аб прызначэнні Ананіч на апалітычным партале Onliner.by.

Гэта Ананіч падпісвала дакумент аб спыненні дзейнасці выдавецтва «Логвінаў» за выданне альбома «Прэс-фота Беларусі—2011», гэта яна выносіла папярэджанні незалежным СМІ, гэта яна апелявала да досведу Кітая, які ўвёў інтэрнэт-цэнзуру. Крэда новай міністаркі добра сфармуляванае ў фразе: «СМІ — гэта не чацвёртая ўлада, а партнёры ўлады».


**Станіслаў Іосіфавіч Яцэвіч пабудаваў леваноўскую школу і стаў яе дырэктарам.**

Зрэшты, палітычная пазіцыя Лілії Ананіч добра вядомая. «Наша Ніва» вырашыла пагледзець на чыноўніцу з іншага, «чалавечага», боку.

## Мядоцкі край

Паўднёвы ўсход Барысаўшчыны мясцовыя жыхары называюць Мядоцкім краем. У часы Вялікага Княства Літоўскага тут была непралазная Барысаўская пушча, а пасля на яе абшарах паўсталі некалькі дзясяткаў вёсак.

Леванова, дзе і нарадзілася Лілія Ананіч, адна з іх. У вёсцы засталося менш за 200 чалавек, хоць, здаецца, яшчэ нядаўна колькасць жыхароў даходзіла да 800. Затое сіламі энтузіястаў у вясковай бібліятэцы з'явіўся музей народнай творчасці і побыту. Ягоная кіраўніца Марыя Несцяровіч ведае ўсё пра славутых землякоў.

«Мы так любім Лілію Станіслаўну! У нас штогод праходзяць сустрэчы з землякамі, дык яна была тры разы запар, — расказвае яна. — Звычайна дарыла кнігі, а летась прывезла музычны цэнтр. Толькі сёлета не прыехала. Мусіць, як стала міністрам, то ўжо і не зможа прыязджаць. Столькі спраў у яе будзе!»

## Міністэрская вёска

Леваноўцы лічаць сваю вёску міністэрскай. Апроч Ананіч, у высокую ўладу прабіўся яшчэ адзін іх зямляк. Іван Шчэрба, які да нядаўняга часу ўзначальваў Міністэрства транспарту, нарадзіўся ў Паднеўцы. Гэта напаўзакінутая вёска менш чым за кіламетр ад Леванова. Як зволнілі Шчэрбу, так ён і прапаў, скардзяцца вяскоўцы. Толькі з інтэрнэту яны даведаліся, што былы міністр нібыта ўладкаваўся ў «Амкадор» мільянера Шакуціна, які любіць падбіраць адстаўнікоў.

**Лілія Ананіч**

Нарадзілася ў 1960-м у вёсцы Леванова Барысаўскага раёна. У 1982-м скончыла факультэт журналістыкі БДУ, у 2000-м — Акадэмію кіравання.

У 1984—1992 працавала рэдактарам, пасля старэйшым рэдактарам вайсковага НДІ сродкаў аўтаматызацыі ў Мінску.

З 1992 — у сістэме Міністэрства інфармацыі.

Замужам, мае дваіх дзяцей. Дачка выйшла замуж у Маскву, сын працуе ў Мінску.




ODNOKLASSNIKI.RU

**Ліліі Ананіч забаронены ўезд у Еўрасаюз. Разам з мужам, дачкой і ўнукамі яна адпачывае ў Турцыі.**

# дачкі з пушчанскага краю

**Кватэрнае пытанне**

Ранейшая пасада Ліліі Ананіч не дазваляла ёй прэтэндаваць на атрыманне ласага кавалка зямлі ў Драздах. Сям'я жыве ў вялікай чатырохпакаёўцы (амаль 100 м²) у сталічным мікрараёне Чырвоны Бор. Шматпавярховік на вуліцы Мазурава засяляўся ў 1999-м.

Па словах леваноўцаў, Ананічы будуюць яшчэ і лецішча ў Сёмкаве пад Мінскам.

## Бацькі-настаўнікі

Гонар Леванова — былы дырэктар школы Станіслаў Іосіфавіч Яцэвіч, бацька Ліліі Ананіч.

Ён з'явіўся ў вёсцы пасля вайны. «Аднекуль, мусіць, быў з Заходняй Беларусі, ён жа каталік», — узгадваюць суседзі. У Леванове Станіслаў пачаў адбудоўваць школу. «Ой, як цяжка яму было, ён жа паранены быў!» — кажуць вяскоўцы.

Яцэвіч стаў дырэктарам леваноўскай «васьмігодкі», выкладаў гісторыю і геаграфію. Жонка, Вольга Гаўрылаўна, працавала разам з ім, вучыла дзяцей беларускай мове і літаратуры, а яшчэ і нямецкай мове. Яна, дарэчы, нарадзілася ў суседняй вёсцы.

«У яго заўсёды была дысцыпліна. Вось таму ў нас у вёсцы і шмат людзей з вышэйшай адукацыяй — і міністры, і кандыдаты навук. Гэта залежыць ад дысцыпліны. Мы ўвечары баяліся нават у клуб схадзіць. Хацелася на танцы, але дзяжурыў патруль з настаўнікаў, і яны маглі нас выклікаць да Станіслава Іосіфавіча на дыван», — расказвае Марыя Несцяровіч.

## Вялікая сям'я

Пакуль Яцэвічы будавалі сваю хату, жылі ў школе. Там і нарадзілася будучая міністарка.

«Яны хоць і настаўнікі, але жылі як вясковыя людзі. Садзілі агарод, трымалі кароў», — кажа суседка. А ў сям'і тым часам падрастала чацвёра дзяцей.

Старэйшая Ала, як стала дарослая, працавала ў барысаўскай паліклініцы. Малодшая Ірына — бухгалтарка на мясакамбінаце. А між імі былі яшчэ Уладзімір і Лілія.

У сваім класе Лілія была старастай. А вучылася на адныя пяцёркі, расказвае далёкая сваячка Зінаіда.

Ці размаўлялі ў хаце Яцэвічаў па-беларуску? «А як жа іначай? — не разумеюць суседзі. — Тым больш калі ў цябе мама беларускую мову выкладае. Лілія і цяпер, як прыязджае на сустрэчу вяскоўцаў, па-беларуску прамаўляе».

## Разарванае каханне

Суседка Галіна ўзгадвае першае каханне высокай чыноўніцы. Славік цяпер трымае краму ў Барысаве. «Днямі з ім сустрэлася, дык ён распытваў, як там Ліля», — расказвае яна. Падлеткавыя пачуцці развеяліся праз ад'езд дзяўчыны.

У Леванове Лілія вучылася толькі да сёмага класа, а скончвала школу на Драгічыншчыне. Туды перавялі бацьку. Чаму, здавалася б? Іншая ж вобласць.

Яцэвічы вярнуліся ў Леванова на пенсію, калі дачка ўжо паступіла на факультэт журналістыкі БДУ.

## Гучнае вяселле

Вяселле цяперашняй міністаркі, а тады яшчэ студэнткі, нават праз 30 гадоў памятае ўся вёска. На свята з'ехаліся дзясяткі гасцей. Але перадусім запомніўся прыезд сябровак нявесты. «Гэта адзіны раз у гісторыі, калі нехта чарнаскуры сюды прыехаў!» — смяюцца суседзі. Экзатычную госцю з Марока яны не могуць забыць дагэтуль. Вяселле гулялі зімой, дык адна з гасцей, грачанка, сядзела ўвесь дзень каля печкі, каб сагрэцца.

Жаніх — выдатнік Пятро Ананіч — вучыўся на фізіка-матэматычным факультэце. Нават абараніў кандыдацкую дысертацыю, кажуць. Але ў 1990-я сышоў у бізнэс.

## Не на шляху камунізму

У 1983-м Лілія (цяпер ужо Ананіч) паспяхова скончыла журфак БДУ і размеркавалася ў газету «Шлях камунізму». Сярод усіх магчымых «раёнак» гэта быў найлепшы варыянт.

«Шлях камунізму» быў газетай Мінскага раёна, але яго рэдакцыя знаходзілася ў цэнтры сталіцы. Што ўяўляла з сабой выданне? Чатыры старонкі палітінфармацыі і навінаў з палёў. Напрыклад, у пачатку 1984-га газета два нумары запар друкавала спісы сяброў выбарчых камісій. Апроч гэтай «карыснай» інфармацыі, у тых выпусках газеты не было зусім нічога.

Паводле афіцыйнай біяграфіі, Ананіч адпрацавала ў «Шляху камунізму» два гады, прычым фотакарэспандэнтам. Як выглядала савецкае жыццё ў аб'ектыве яе фотаапарата? Дзіўны факт: мы не знайшлі ніводнага фотаздымка за яе подпісам за два гады працы. Гэтым іменем не падпісаны і ніводзін з журналісцкіх тэкстаў. Дык ці была яна ўвогуле ў «Шляху камунізму»?



VK.COM

Сын Андрэй на адпачынку ў Тайландзе.

## Шлях да міністра

Год нараджэння старэйшай дачкі міністаркі дае падставы меркаваць, што час размеркавання Лілія Ананіч правяла ў дэкрэце.

У газету яна больш не вярнулася. У 1984-м Ананіч уладкавалася рэдактарам у Навукова-даследчы інстытут сродкаў аўтаматызацыі (сакрэтнае прадпрыемства, цяперашні «Агат»), дзе сустрэла развал СССР і абвяшчэнне незалежнасці.

Адзін з яе калегаў па НДІ пакінуў каментар на сайце «Нашай Нівы», у якім узгадаў прыязнае стаўленне Ананіч да актыўных носьбітаў беларускай мовы. У радыёчасопісе прадпрыемства, які яна вяла, часцяком расказвалася пра гісторыю адраджэння беларускай мовы і пра важнасць нацыянальнай культуры для беларусаў.

У 1992-м Ананіч стала чыноўніцай нядаўна створанага Міністэрства інфармацыі, дзе і засталася дагэтуль. Хоць яе працоўная кніжка напоўненая разнастайнымі запісамі, прычына гэтаму — бюракратычныя пераўтварэнні. Міністэрства інфармацыі праз нейкі час аб'ядналася ў адну структуру з Міністэрствам культуры, затым ператварылася ў Дзяржаўны камітэт па друку, а пасля зноў стала Міністэрствам інфармацыі. Стабільным заставаўся толькі кар'ерны рост Ліліі Ананіч.

Вяскоўцы званілі зямлячычыноўніцы з віншаваннямі. «Дык яна сказала, што не хацела ісці ў міністры, бо ўжо хутка на пенсію», — расказвае сваячка Зінаіда.

«А ў нас з ёй угавор быў: стане міністрам — забярэ мяне ў Мінск!» — смеючыся, дадае суседка Галіна.

Злыя языкі ў інтэрнэце звязваюць узлёт Ананіч да міністэрскай пасады з сумеснай працай у «Агаце» з Віктарам Лукашэнкам. Гэта лухта: сын кіраўніка дзяржавы працаваў у гэтай кампаніі праз дзесяць гадоў пасля яе сыходу.

**Невыязная**

Лілія Ананіч, як і яе папярэднік Алег Праляскоўскі, унесеная ў «чорны спіс» чыноўнікаў, якім забаронены ўезд на тэрыторыю Еўрасаюза.

## Зруйнаваная вёска

...У 1990—2000-я Леванова вымірала, моладзі станавілася ўсё менш. Ахвярай аптымізацыі стала школа. «Як яе грамілі, як руйнавалі, як вяскоўцы цэглу расцягвалі... У Станіслава Іосіфавіча асадак на душы застаўся — усё ж сваімі рукамі будаваў. Укарацілі яму жыццё», — наракае бібліятэкарка. Школа стаяла якраз праз дарогу ад хаты Яцэвічаў.

Бацька памёр у канцы 2000-х. Вяскоўцы называюць яго смерць лёгкай. Пасля працы па хаце стомлены Станіслаў Іосіфавіч прысеў на верандзе, а калі праз хвіліну малодшая дачка падышла да яго, ён ужо быў нежывым. Неўзабаве сышла і Вольга Гаўрылаўна.

Цяпер у хату на выходныя прыязджаюць дзеці і ўнукі з Барысава, часам са сталіцы завітваюць і Ананічы.

«Яны па-вясковаму жывуць. Лілія Станіславаўна кажа: мы маглі б там усё перарабіць, але вёска ёсць вёска. Гэта наш родны куток, адкуль мы выйшлі», — кажа Марыя Несцяровіч.

## Дзеці-выдатнікі

У Ананічаў двое дзяцей. Старэйшая дачка Вольга, скончыўшы ліцэй БДУ, пайшла дарогай маці. Яна паступіла на факультэт журналістыкі БДУ. Як расказвала сама Ананіч, пасля другога курса дачку-выдатніцу адправілі па абмене на вучобу ў Маскву.

У Расіі Вольга давучылася на журфаку МГУ і скончыла яго з чырвоным дыпломам. «На паўгода з'язджала ў Канаду практыкавацца ў англійскай мове і кулінарыі (на жыццё даваўся зарабляць у піцэрыі), — прызнавалася яна. — Але эмігранта з мяне не выйшла». У выніку Вольга засталася ў Маскве, яна працуе ў дзелавым часопісе РБК.

У Расіі дзяўчына знайшла мужа. У сям'і гадуюцца сын Цімур і маленькая дачка Агата.

А вось малодшы сын міністаркі Андрэй пакуль нежанаты. Сярэднюю адукацыю ён атрымаў у мінскай беларускамоўнай гімназіі і ліцэі БДУ, а пасля адвучыўся на эканамічным факультэце БДУ на менеджара. Па словах сяброў, цяпер Андрэй уладкаваўся ў «Трайпл».

Мікола Міцкевіч, Леванова—Мінск



Бацькоўская хата.

# Апостальскі нунцый: Беларускі народ, не бойся!

Казань нунцыя **на Будслаўскім фэсце** была нязвыклай.

«Не бойся, беларускі народзе, нават калі цяжка, нават калі трэба плакаць, — не бойся!» – сказаў ён. Арцыбіскуп дадаў, што «страх — тое, што забівае нас: не канкрэтная рэчаіснасць, а страх будучыні».

«Біскупы, гэта ваша святыня, ваш народ, вы заручаны з гэтым народам! Дарагія святары, манахі і манахіні, вы — душа гэтага народа, якая моліцца, і яна перадалася народу ў малітве. І вы, дарагія браты і сёстры, якія напоўнілі сёння гэты пляц больш густа, чым зоркі на небе, — гляньце на святло вашых свечак, бо за кожнай з іх ёсць чыёсьці сэрца», — звярнуўся Апостальскі Нунцый да прысутных.

І далей сказаў вось што: «Не бойся, беларускі народзе, нават калі цяжка, нават калі трэба плакаць, — не бойся! — Ён дадаў, што «страх — тое, што забівае нас: не канкрэтная рэчаіснасць, а страх будучыні», «страх перашкаджае нашым зносінам, перашкаджае нам сустракаць адзін аднаго на вуліцах і дома», «страх часта загадвае нам не казаць тое, што мы думаем, не паказваць тое, што адчуваем», «страх кажа: сядзі на месцы, не высоўвайся».

Згадваючы, што беларускі народ называюць найбольш цярплівым у свеце, іерарх адзначыў: «Цярплівасць — вялікая цнота, пры ўмове, што яна не ператвараецца ў недахоп павагі да сябе». «Сёння на вас спазірае Божая Маці і кажа: няхай не слабеюць вашы рукі. І ў цябе ёсць будучыня, беларускі народ, і перад табой ёсць дарога, нават калі ты яе не бачыш, — Бог падрыхтаваў гэтую дарогу для цябе, — звярнуўся Апостальскі Нунцый да вернікаў. — Твой Бог сярод цябе цяпер, і заступніцтва Яго Маці таксама з табой».

Фэст сабраў дзясяткі тысяч вернікаў з усёй Беларусі. Яго кульмінацыяй, як заўжды, была працэсія са свечкамі апоўначы.

**СГ**



CATHOLIC.BY

# Памёр Эдуард Шэварднадзэ

Экс-прэзідэнта Грузіі не стала **на 87-м годзе** жыцця.

Ён нарадзіўся ў вёсцы Мамаці Ланчхуцкага раёна Грузіі (на захадзе краіны). З 1946 быў актывістам Камуністычнага саюза моладзі Грузіі. У час працы ў камсамоле пазнаёміўся з Міхаілам Гарбачовым.

У 1972—1985 гадах быў першым сакратаром ЦК Кампартыі Грузіі. Пры яго кіраўніцтве ў 1978 на 3 гады зняволілі і яшчэ на 3 гады выслалі ў Расію заснавальнікаў Групы абароны правоў чалавека Звіяда Гамсахурдзію і Мішаба Коставу.

У 1985—1990 Шэварднадзэ ўзначальваў Міністэрства замежных справаў СССР. Пасля Грамыкі гэта быў сапраўдны прарыў, бо Шэварднадзэ быў здольны жартаваць і ўсміхацца.

Менавіта ў гэты час з ім пазнаёміўся міністр замежных справаў Беларусі (1990—1994) Пятро Краўчанка. «У 1989-м я меў з Шэварднадзэ паўтарагадзінную гутарку ў Нью-Ёрку. Размаўлялі пра выплату кампенсацыі беларускім ахвярам фашызму. Эдуард Амвросіевіч сказаў, што гэтае пытанне зайгранае і яго падымаць не будзе, а немцы высмеюць нас. Я нагадаў Шэварднадзэ, што ў Беларусі ў 1941-м пры абароне Брэсцкай крэпасці ў яго загінуў брат».

Пасля развалу СССР Шэварднадзэ быў у зеніце славы, да яго стаялі ў чарзе па інтэрв'ю, ён чытаў лекцыі ў вядучых універсітэтах свету. Аднак у 1992-м Ваенная рада, на чале якой стаяў Шэварднадзэ, скінула з пасады прэзідэнта ўсё таго ж Гамсахурдзію. У краіне пачалася грамадзянская вайна.



З пасады прэзідэнта Шэварднадзэ сышоў толькі ў 2003-м годзе, калі перамагла «рэвалюцыя руж». Дажываў свой век Шэварднадзэ ва ўрадавай рэзідэнцыі Крцанісі, якая будавалася ў Тбілісі яшчэ па загадзе Лаўрэнція Берыі.

**ЗП**

# З Мінска ў аэрапорты Вільні і Каўнаса пусцілі экспрэс-аўтобусы

Пра гэта паведамляе сайт **Віленскага аэрапорта**.

«Пасажыры з суседняй Беларусі змогуць трапіць у Віленскі і Каўнаскі аэрапорты яшчэ хутчэй і зручней, — гаворыцца ў паведамленні. — Прадпрыемства «Лоўкост», якое ўваходзіць у склад транспартнай групы «Алізана», пачынае ажыццяўляць экспрэс-рэйсы па маршруце Мінск — аэрапорт Каўнаса і назад. У гэтым месяцы маршрут будзе дапоўнены прыпынкам у Віленскім аэрапорце.

У час летняга авіяцыйнага сезона экспрэс-рэйсы з Мінскага аэрапорта ў Віленскі і Каўнаскі аэрапорты будуць ажыццяўляцца два разы на дзень новымі пасажырскімі мініаўтобусамі Mercedes. Падчас зімовага сезона перавозка будзе арганізавана з улікам раскладаў рэйсаў.

**АГ**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Не тыя, альбо Ці быў «Хлопчык з лебедзем»?

У ліпені 1944 года маці пісала бацьку на фронт: «Мінск — гэта канчатковая мяжа маёй мары, мая кропка, адзіная і апошняя».

У мінулым — пекла чэрвеня 41-га, сыход з горада пешшу на шостым месяцы цяжарнасці. І вось, праз тры гады, вяртанне з маленькім сынам...

«Тры дні, — піша яна далей, — хадзіла па такіх родных і такіх страшэнна чужых вуліцах... Людзей мала. І людзі не тыя».

Далей маці падрабязна піша пра тое, што захавалася па левым баку былых вуліцаў, па правым, а што знішчана ўшчэнт. У тым ліку дом, дзе яна жыла да вайны, да крушняў каторага ледзь дабралася праз кучы зямлі, цэглы і камянёў, каб убачыць пустэчу неба замест колішніх сваіх вокнаў...

Канчатковая мяжа мары.

...Усё ж дзівосная і недатлумачаная з'ява — штогод ладзіць 3 Ліпеня парады, ці то на Дзень незалежнасці, ці то на Дзень рэспублікі, ці то на дзень вызвалення Мінска ад нямецкай акупацыі. Мы звыкла тлумачым гэтую блытаніну неадольным жаданнем кіраўніка краіны дэманстраваць сілу свайго ўладарання. Але адкуль у часткі сучасных гараджан тыпова савецкая звычка не задумвацца пра маральны змест і сэнс гістарычных падзей? Чаму ахоплівае іх радаснае ажыўленне і псеўдапатрыятычны энтузіязм? Чаму не заўважаюць фальшывасць, наўмыснасць трэцяліпеньскіх урачыстасцяў, а паказуху з танкаў, што гарэць, з ракетавозаў, што ламаюцца, з трактароў, якія мала каму ў свеце патрэбны, лічаць за праяву памяці пра гераічную мінуўшчыну?

Так, памяць — вельмі моцны сродак захавання душы. І чалавека, і горада, і краіны.

Але ці ёсць яна, памяць, у сучаснага Мінска?

Ці ёсць у сучаснага Мінска душа?

«А са спуску да электрастанцыі, — піша матуля да бацькі, — і паміну няма, што калісьці тут быў горад...»

Сёння і паміну няма, што калісьці тут была электрастанцыя. Першая ў Мінску. То бок частка ягонай душы. Замест яе — выродлівы тромб...

Так, пасля вайны будавалі новы горад, але яшчэ жывую мінскую душу адразалі кавалкамі. І напрыканцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя на знешняе аблічча горада канчаткова быў наведзены ўзорны сацыялістычны глянец і бляск. І горад, што стаўся на месцы пахаванага пад крушнямі, дзіўным чынам злучыў цяжкую дымную індустрыю і казарменную неперабарлівасць заводскіх ускраінаў з фальшывакласічнай эклектыкай цэнтра, аднастайнай нудотай мікрараёнаў, задзірлівым размахам праспектаў, плошчаў і выпіраючай адусюль камуністычнай лозунгавасцю...

> **Напрыканцы 80-х у Мінску практычна не засталося старажылаў**

Усё, ці амаль усё, што складала своеасаблівасць гарадскога жыцця, шматколернасць ягоных традыцый і рытуалаў, утрамбавалася рэвалюцыямі, войнамі і безразважным будаўніцтвам «светлай будучыні». Апошнім на той час актам гэтай трагедыі сталася гісторыя «Хлопчыка з лебедзем» — фантана-помніка ў цэнтральным гарадскім скверы, што быў адкрыты ў 1874 годзе ў гонар першага мінскага водаправода, і, надзіва, перажыў усе войны і рэвалюцыі. Два пэтэвэшнікі, два выпладкі тых, хто, быццам помпай, быў зацягнуты ў будаўніцтва «катлавана», адарваны ад каранёў і змешчаны ў агульнае сацыялістычнае памяшканне, скруцілі ўсё ж лебедзю шыю і разбілі хлопчыку галаву...

Так, напрыканцы 80-х у Мінску практычна не засталося старажылаў, тых, хто яшчэ захоўваў у сабе генетычныя коды гарадскіх пакаленняў. Нават даваенных старажылаў у Мінску амаль не засталося: рамесна-гандлёвы і службовы люд быў павыбіты яшчэ рэвалюцыяй і грамадзянскай вайной; нацыянальная інтэлігенцыя, што парадзіла і ўвабрала ў сябе дух хуткацечнага беларускага Рэнесансу, згінула ў віры ГУЛАГу; шмат па кім з тых, хто ў 41-м застаўся ў акупацыі і вымушаны быў працаваць у немцаў, бязлітасна пракацілася чырвонае кола НКВД; габрэйства збольшага загінула ў гета, а тое, што выжыла, з'ехала на нанава здабытую радзіму продкаў ці ў іншыя прыхільныя землі і гарады...

Маці не тлумачыць, што мела на ўвазе, калі напісала: «І людзі не тыя». Хутчэй за ўсё, не тыя тварамі, не тыя паводзінамі — не тыя, што да вайны...

Сёння ж «не тыя» ладзяць парады па ценях забітых продкаў і гандлююць кавалкамі мінскай душы.

...Дык ці быў у Мінску **той** «Хлопчык з лебедзем»? А мо яго і не было? Бо той, што аднаўлены — не той, не той...

Я жыву недалёка ад найстарэйшых мінскіх могілак, што завуцца Вайсковымі, хаця пахаваны тут і цывільныя людзі, пакаленні мінчукоў. Доўгі час могілкі былі ў заняпадзе, рэдка хто, акрамя бабуляў, заходзіў сюды паклапіцца магілам і запаліць у царкве свечку. І толькі ў сённяшнія часы плыве наўкол чысты, празрысты звон. Святое месца поўніцца людзьмі, а ля магіл, асабліва на Радуніцу і Дзяды, увіхаюцца ні адсюль, ні адтуль нашчадкі — прыбіраюць апалае лісце, упрыгожваюць магілы кветкамі, фарбуюць агароджы... Могілкі ажылі, як ні дзіўна гэта гучыць.

Не ведаю, як для каго, а для мяне гэта самы верны, самы абнадзейлівы знак таго, што душа майго роднага горада адроджваецца.

Знак таго, што «Хлопчык з лебедзем» усё ж такі быў.

# Пераломом трэцяга паясьнічнага пазванка

Галоўная надзея Бразіліі, Неймар, атрымаў страшную траўму.

У самай канцоўцы чвэрцьфінальнай гульні чэмпіянату свету па футболе Бразілія — Калумбія абаронца апошніх, Хуан Суньіга, наляцеў з нагамі на сьпіну 22-гадоваму бразільцу Неймару. Бразільцы на той момант выйгравалі 2:1, і спачатку многія маглі падумаць, што Неймар ляжыць на газоне проста, каб пацягнуць час. Але секунды цікалі, а выява болю з твару бразільскага форварда не зьнікала. Неймар так і не змог падняцца на ногі, з поля яго суправаджалі на насілках, а ў шпіталь дастаўлялі на верталёце.

Дыягназ — пералом папярэчнага адростка трэцяга паясьнічнага пазванка. На ўзнаўленьне бразільцу спатрэбіцца час ад аднаго да двух месяцаў. Мундыяль для Неймара скончаны. Для сёньняшняй Бразіліі Неймар — не шараговы футбаліст, гэта лідар каманды (на чэмпіянаце ён забіў чатыры мячы). У такім сьвятле зьблеклі перспэктывы бразільцаў перамагчы на мундыялі.


Самастойна падняцца з газона Неймар не змог.


Габрыэла Лензі — сяброўка Неймара.

## Беларускі след

Неймара называюць самым моцным бразільскім футбалістам апошняга дзесяцігодзьдзя. У спартыўную школу «Сантаса» ён прыйшоў у 7 гадоў і правёў у ёй цэлае дзесяцігодзьдзе. На юнацкім узроўні яму не было роўных. Ён выступаў за зборную Бразіліі ўсіх узростаў і не згубіўся, калі перайшоў у дарослы футбол.

Неймар — пераможца Лёнданскай Алімпіяды. Тады ад ягонай нагі пацярпела і беларуская зборная. У сярэдзіне другога тайма ён забіў са штрафнога пераломны ў гульні мяч, а ўжо ў кампэнсаваны час аддаў галявую перадачу. Цікава, што беларусы і бразільцы тады жылі ў адным гатэлі. І многія нашы гульцы не адмаўлялі сабе ў задавальненьні сфоткацца з зорным паўднёваамэрыканцам. Ён нікому не адмаўляў.

Ужо сёньня, яшчэ ў зусім маладым веку, Неймар зьяўляецца адзінаццатым бамбардзірам у гісторыі бразільскай зборнай.

## Рэкламуе марожанае

Летась Неймар перабраўся з «Сантаса» ў «Барсэлону». Каталёнскі клюб заплаціў за футбаліста 57 мільёнаў эўра. Сам Неймар атрымлівае 7 мільёнаў эўра за год. Толькі два спартсмэны ў сьвеце маладзейшыя за 25 гадоў, атрымліваюць болей (валійскі футбаліст Гарэт Бэйл і амэрыканскі баскетбаліст Дэрык Роўз).

Але зарабляе бразілец не толькі гульнёй. Ён зьяўляецца рэклямным тварам дзясяткаў кампаній, што прадаюць газіроўку, спарттавары, марожанае, тэлефоны, батарэйкі, і нават банка. А яшчэ Неймар стаў першым бразільскім футбалістам, што трапіў на вокладку часопіса Time.

Ён мае 12 мільёнаў падпісчыкаў у Твітары і 8 мільёнаў у Інстаграме. Варта Неймару толькі зьявіцца на людзях з новай прычоскай, як яе капіююць тысячы. А прычоскі ён мяняе ледзьве не штомесяц.

## Сустракаецца з прыгажуняймі

У 19 гадоў у Неймара зьявілася дзіця. Але футбаліст так і не назваў імя маці. Увогуле, амурнае жыцьцё футбаліста багатае на падзеі. Неймар не з той пароды гульцоў, што знаходзяць сваё каханьне яшчэ за школьнай партай. Ёсьць з дзясятак прыгажунь, якім прыпісваюць адносіны з Неймарам. Цяпер ён сустракаецца з мадэлькай Габрыэлай Лензі.

Любоў бразільцаў да Неймара бязьмежная. Яго партрэты малююць на сьценах, ён становіцца героем комісаў, а маскі з яго выявай заўсёды ходавы тавар гандляроў. Нават прэзэрватывы выпускаюць з выявай футбаліста. Але такія выдатныя перспэктывы перакрэсьліў пераломам. Далей бразільцам трэба выплываць без важака.

**Зьміцер Панкавец**

Замена чэмпіянату

# Як запасны брамнік Галяндыю выратаваў

Самай вялікай сэнсацыі чэмпіянату сьвету не даў спраўдзіцца Цім Крул.

«Аранжавыя» ўвесь чвэрцьфінал насядалі на вароты Коста-Рыкі. Але маленькая і горда каманда Хорхе Луіса Пінты гэтыя наскокі жорстка спыняла. На варотах у костарыканцаў бажыў Кейлар Навас. Асноўны і дадатковы час скончыліся з лікам 0:0. Пры канцы авертайма трэнэр галяндцаў робіць дзівосную замену, выпускаючы на поле запаснога брамніка Ціма Крула.

Замена варатара ў футболе — зьява экстраардынарная, адбываецца яна толькі ў тым выпадку, калі асноўны галкіпэр моцна накасячыў ці атрымаў траўму. А тут у такі вырашальны момант. Цім Крул перад гэтым адгуляў за зборную Галяндыі ўсяго шэсьць матчаў.

Пасьляматчавыя пэнальці — слабое месца галяндцаў. На буйных спаборніцтвах колькі разоў яны спатыкаліся менавіта на футбольнай латарэі. Асабліва згадваецца паўфінал Эўра-2000, калі галяндцы не забілі два адзінаццаціметровыя падчас гульні, а таксама саступілі па пэнальці. А тут яшчэ ў брамніка костарыканцаў абсалютна забойная статыстыка: з 10 апошніх пэнальці ён адбіў 5. Фантастычныя 50%! Галяндцу Ясперу Сілесэну такія лічбы і не сьніліся.

Таму трэнэр брамнікаў Франс Хук і нашаптаў настаўнікам «аранжавых», што трэба выпускаць запаснога брамніка Ціма Крула. Маўляў, у яго справы з адбіваньнем пэнальці нашмат лепшыя. Луі ван Гал вырашыў рызыкнуць. «Мы ўсе ганарымся, што гэты трук прайшоў», — прызнаваўся пасьля ван Гал. Цім Крул адбіў два пэнальці з пяці. Ягоны коста-рыканскі калега не змог выратаваць ні разу.

Крул мае цікавую тэхніку адбіваньня пэнальці. Ён не спрабуе загадзя адгадаць кірунак палёту мяча, ён чакае самога ўдару і рэагуе на яго. А рэакцыя ў гэтага 26-гадовага хлопца — будзь здароў! Як бачым, двойчы яму гэтага хапіла, каб дацягнуцца да мяча.

Але Крул не проста выцягваў уперад левую руку, ён яшчэ псыхалягічна атакаваў супернікаў: гуляў па штрафной, зазіраў у вочы тым, хто зьбіраецца ўдарыць па браме, нават паказваў нейкія жэсты. Усё ў рамках закону, але на атакуючых дзейнічае.


Цім Крул і Франс Хук — творцы галяндскай перамогі.

Коста-рыканскаму цуду не дадзена было зьбыцца. Бязьлітасны Крул вывеў Галяндыю ў паўфінал.

**ЗП**

## Сьцісла

### Косава для Суарэса

Уругвайскі нападаючы Луіс Суарэс дыскваліфікаваны на чатыры месяцы за ўкус італьянца К'еліні ў групавым этапе чэмпіянату сьвету. Косаўскі клюб «Хайвалія» прапанаваў Суарэсу пагуляць гэты час за іх каманду. Косава пакуль не ўваходзіць пад патранаж ФІФА і УЕФА, але свой чэмпіянат мае. Касавары гатовыя плаціць Суарэсу 1,2 тысячы эўра за месяц.

### У Камэруне — расьсьледаваньне дагаварнякоў

Арганізатар матчаў па дамоўленасьці, сінгапурац Уілсан Радж Перумал, заявіў, што гульня паміж Харватыяй і Камэрунам была падстаўной. За некалькі гадзін да гульні Перумал напісаў, што вынік будзе 4:0, а аднаго камерунца выдаляць у першым тайме. Усё так і адбылося. Маўляў, у гэтым спэктаклі ўдзельнічалі сямёра камэрунскіх футбалістаў. Цяпер вядзецца расьсьледаваньне, ці гэта было сплянавана, ці выпадкова супала.

### Расейцам трэ' будзе сплаціць Капэлу 32 мільёны эўра

...калі яны захочуць разарваць кантракт. Пагадненьне з італьянскім настаўнікам падпісана да 2018 года. У Расеі многія незадаволеныя вынікам гульні каманды пад кіраўніцтвам Капэлы, але каб яго звольніць, патрэбныя вялікія грошы.

### У Марадоны забралі акрэдытацыю

Самы вялікі футбаліст сьвету XX стагодзьдзя, аргенцінец Дыега Марадона, рэзка выказаўся аб гульні Бразілія — Калумбія. Маўляў, гаспадарам перамагчы дапамагалі толькі судзьдзі. Яшчэ ён асудзіў дыскваліфікацыю Суарэса. За гэта ФІФА пазбавіла славутага бунтара акрэдытацыі ў VIP-ложу.

### Памёр Альфрэда ды Стэфана

Легендарнага футбаліста мадрыдскага «Рэала» не стала на 89-м годзе жыцьця. За некалькі дзён да сьмерці ён перанёс сардэчны прыступ. Ды Стэфана быў двойчы ўладальнікам «Залатога мяча» (1957, 1959). А за кар'еру пагуляў аж у трох зборных — Аргенціны, Калумбіі і Іспаніі. Раней гэта было магчыма.

**ЗП**

На злобу дня

# Збожжа, смірна!

Уборка збожжа сёлета будзе як ніколі «ваенная».
**А. Лукашэнка ў Бялынічах, 7 ліпеня.**

Нерэальнай падаецца мне карціна:
Збожжа ёсць, а зборшчыкаў не маюць.
Тады, што сталася з табой, Радзіма?
Чаму ж твой хлеб ваенныя збіраюць?

**Чытач**

# І я абараніўся па-беларуску!

Вітаю Рэдакцыю «НН»!

Захацелася падзяліцца з вамі прыемнай для мяне падзеяй.

Чытаў у вашай газеце пра хлопца, які абараніў дыпломны праект па-беларуску. Мне вельмі прыемна чытаць такія навіны. Я паважаю людзей, якія прынцыпова ставяцца да такіх пытанняў. Я і сам зрабіў гэтаксама.

Яшчэ ў ранейшых вашых публікацыях чытаў пра студэнтаў, што абараніліся на 10. Я па-добраму ім зайздросціў. І вырашыў, што і сам абавязкова напішу свой дыплом па-беларуску. Так і адбылося. Я адзіны з групы, хто вырашыў так зрабіць, а мо і наогул з усёй сваёй навучальнай установы. І мне таксама вельмі хацелася атрымаць 10, каб не зганьбіць папярэднікаў )).

Я дарма хваляваўся. У камісіі было два чалавекі з Міністэрства адукацыі, якія вельмі пазітыўна ўспрынялі мой дыплом. Адзін з іх нават прамовіў: «Вось, я хоць паразмаўляю...» — і пачаў гутарку са мною.

Мой дыплом быў на тэму: «Нацыяналізм у XIX ст. Развіццё канцэпцый». Вядома, гуманітарыям лягчэй падрыхтаваць беларускі дыплом, але ўсё ж. Мне задавалі дастаткова пытанняў, але я валодаў тэмаю. І я таксама атрымаў 10.

Спадзяюся, што такіх людзей, якія абіраюць беларускае, будзе толькі больш.

Прыемнага настрою Вам і лёгкіх працоўных дзён!

**Ваш чытач, Сяржук Н. са Слуцка**

# А вы Пушкіна намалюйце

Давялося днямі быць у сталіцы. Набыў у шапіку свежы нумар «НН» з допісам пра жарцкі вакол зафарбоўкі партрэта Быкава ў цэнтры горада ды крочу сабе ціхамірна ў натоўпе па пераходзе да станцыі метро «Купалаўская». Як раптам бачу: авохці, ці не сам Пушкін насустрач бяжыць? Усе дружненька ў адным кірунку крочаць, ён жа, як і след самавітаму творцу, — супраць плыні, у гордай самоцеадзіноце праз натоўп прадзіраецца. Твар адухоўлены, вочы ззяюць, так і просіцца графічнаю выявай (з дазволу ўладаў, вядома, мы ж не экстрэмісты) на сцяну якой-небудзь электрападстанцыі. Толькі так падумаў ды памкнуўся пераняць, каб спытаць, што сам майстра мяркуе наконт гэткае перспектывы, ды запозна было: Пушкіна і след астыў.



Вярнуўся ў Віцебск, іду сабе збоч крамы «Веста», што на тэрыторыі былога аэрадрома ў густанаселеным мікараёне «Поўдзень-5» знаходзіцца. Убок зірнуў і вачам уласным не паверыў: сон мой сталічны ў руку — вось жа ён, Пушкін! І акурат графічнаю выявай на трансфарматарным будане, тварам да мінакоў на дарожкці паміж крамаю і шматпавярховікамі. Кажуць жыхары прылеглых дамоў, ці не з месяц ужо прыхарошвае сваім партрэтам някідкі мясцовы краявід. І ніхто яго не чапае, нікому ён не замінае, ніхто яго не зафарбоўвае. Праўда, не той Пушкін, мастак Алесь з Бобра, якога я ў сталічным метро 26 чэрвеня сустрэў, ды якая розніца?

А то, бачыце, — партрэт Быкава ў цэнтры Мінска намалявалі. Знайшлі каго ўвекавечваць! Вы годнае намалюйце ды і спіце сабе спакойна. Таго ж Пушкіна, напрыклад. Балазе, не перавяліся ў нас яшчэ асобы з такім гучным прозвішчам. А ўжо каторы там з іх будзе на той будцы ці сцяне, Пушкін-паэт ці Пушкін-мастак, — справа дзясятая. Дзядзька унтэр Прышыбееў, хоць і лагодны, адрозніць зерне ад плевелу, напэўна, як-небудзь дасць рады.

**Франц Сіўко, Віцебск**

# Mail.Ru Group абвяргае інфармацыю пра цэнзуру крытыкі Пуціна ў «Аднакласніках»

У сувязі з нядаўняй публікацыяй NN.BY атрымаў ад Mail.Ru Group ліст наступнага зместу:

«Інфармацыя пра тое, што ўсе паведамленні з крытыкай на адрас прэзідэнта РФ выдаляюцца з сацыяльнай сеткі «Аднакласнікі», размешчаная ў публікацыі «Аднакласнікі выдаляюць паведамленні з крытыкай Пуціна», якая выйшла на сайце nn.by, не адпавядае рэчаіснасці. Адзіным крытэрыем, па якім з «Аднакласнікаў» можа быць выдалены які-небудзь пост, з'яўляецца парушэнне альбо рэгламенту, альбо дзеючага заканадаўства РФ. Адпаведна, любы публічны пост, які парушае дадзены крытэрый, выдаляецца незалежна ад накіраванасці негатыву».

### Адказваюць чытачы на сайце

«Хлусня! Вось што я атрымала, калі ў ПРЫВАТНЫХ паведамленнях пісала сябрам «Путін х*йло»: «Сообщение расценено как спам и удалено».

### Навіны падказалі чытачы

**Помнік Раданежскаму**

У Мінску адкрыты помнік вялебнаму Сергію Раданежскаму — духоўнаму айцу яднання Русі пад началам Масквы ў XIV ст. У адкрыцці ўдзельнічалі прэм'ер Міхаіл Мясніковіч, адзін з кіраўнікоў расійскіх камуністаў Іван Мельнікаў, спікер Андрэйчанка і мітрапаліт Павел.

**Кніга Аліневіча пайшла ў вялікі свет**

Гэтай вясной у рукі замежных чытачоў трапіла кніга беларускага анархіста Ігара Аліневіча «Еду ў Магадан». Ужо цяпер на паліцах кніжных крам Чэхіі, Іспаніі, Францыі, Англіі, Германіі і Босніі можна знайсці копію кнігі на роднай для жыхароў краіны мове. Кнігу на польскай мове плануюць выдаць восенню.

Нягледзячы на тое, што падзеі, апісаныя ў кнізе, адбыліся ўжо больш за тры гады таму, замежныя тыражы карыстаюцца папулярнасцю, бо кніга апавядае пра беларускія рэаліі, невядомыя шматлікім замежнікам.

**Памяці Марука**

У вёсцы Гута Ганцавіцкага раёна адкрылі мемарыяльную дошку паэту і рэдактару Уладзіміру Маруку (1954—2010).

Праблема

# Фекальныя рэкі на аграберагах

«Нічога лепшага, нічога разумнейшага за аграгарадкі нельга было прыдумаць», — калісьці сказала Надзея Каткавец. Пасля наведвання аграгарадка Шчомысліца, які размесціўся за адзін км ад Мінскай кальцавой дарогі, ад гэтых слоў становіцца страшна: вось ужо некалькі гадоў бруд уперамешку са сцёкавымі водамі зліваюць проста ў цэнтр аграгарадка. Усяго за некалькі метраў ад двароў жылых дамоў! Круглы год стаіць жудасны смурод, вясной усё гэтае «харастро» разліваецца практычна на ўвесь гарадок. Куды толькі не звярталіся мясцовыя жыхары — улады не абцяжарвалі сябе нават банальнымі адпіскамі… Так вось і жывуць людзі, пазбаўленыя нават спадзяванняў на чыстае паветра…»

**Юлія Сцяпанава, facebook.com**

(Фота ёсць у распараджэнні Рэдакцыі: сапраўды, гнойная жыжка цячэ сярод вёскі.)

# Беларусаў для іх не існуе!

Сумнавядомы каляндар друкарні «Перамога» з Маладзечна, які адзначыўся антысеміцкім лозунгам на дзень памяці ахвяраў Халакосту, на «Дзень дружбы і яднання славян» працытаваў вялікадзяржаўную фразу нібыта Дастаеўскага пра «адзін народ».

Спадарства, што ўжо тут залазіць у XIX ст. Змясцілі б адразу выказванне таварыша Гундзяева, што ніякага ўкраінскага народа і ніякага беларускага народа. Трэба ўсё-ткі быць больш сучаснымі, таварышы.

**Чытач**

# Аб прэміі Гедройца вачыма чытачкі

Добры дзень, паважаная рэдакцыя газеты «Наша Ніва»!

Чытаю Вас даўно і з вялікім захапленнем! Найперш падабаюцца артыкулы пра наша жыццё, навіны культуры, творы беларускіх аўтараў. Цікава таксама даведацца пра беларускую глыбінку. Дзякуючы Вам, я пазнаёмілася з пісьменнікам і палітыкам Паўлам Севярынцам, якому дасылала лісты ў Куплін, а потым сустрэлася «ўжывую».

Я вельмі люблю беларускую літаратуру, наведваю сустрэчы з творцамі.

Я неяк ужо была папала са сваімі і развагамі на старонку электроннай «НН», дзе выступала ў абарону пісьменніка Сяргея Верацілы. Дазвольце, я Вам усё распавяду па парадку. Літаратура наша магутная, а так мала чытачоў!.. На прэзентацыі ходзяць адны і тыя ж людзі. Чаму так адбываецца?..

Трэба больш рэкламаваць літбел у сацыяльных сетках!.. Паведамляць, што там і там надрукавалі тое і тое. І невялічкі анонс даць — пра што твор. А калі ён выкладзены ў сеціве — даць адпаведную спасылку. І дыскусіі між літаратуразнаўцамі і крытыкамі трэба выкладаць у сацсетках.

Яшчэ дадам. Трэба арганізаваць усебеларускую акцыю па падпісцы на той жа часопіс «Дзеяслоў». А то рэдакцыя гэтым зусім не займаецца. Прынамсі, я ніколі не бачыла на ФБ нейкай рэкламы выдання.

Няма аніякай візуальнай рэкламы літімпрэзаў. Вунь, за часам розных футурыстаў якая была рэклама! Усе тумбы пазавешаныя!.. Не думаю, што гэта вымагае вялікіх сродкаў.

А вось Вам мае думкі аб прэміі Гедройца.

1) Трэба, каб абіралі папярэдне трох прэтэндэнтаў. А ўжо сярод іх вызначаць лаўрэата. А то астатнім тром надта крыўдна ісці дадому ні з чым.

2) Падзяліць прэмію на тры няроўныя часткі. Скажам, за лаўрэацтва — 5 тыс, за другое месца — 3 тыс, а за трэцяе — 2 тыс. Прапорцыі могуць быць іншыя. Гэта, думаю, абвострыць канкурэнцыю між творцамі.

3) Пры вылучэнні кніг трэба пазначаць, хто вылучае. Можа, будуць менш розныя лухты вылучаць.

4) Трэба ладзіць прэзентацыі «гедройцаўскіх» кніг не толькі ў Менску. «Пятніца з Гедройцам» мусіць праводзіцца у іншых гарадах Беларусі: Віцебску, Гародні, Берасці, Полацку, Магілёве.

5) Журы конкурсу, на добры лад, трэба абнаўляць кожны год на 50%. У склад журы мусяць увайсці і «чыстыя чытачы». Бо, зрэшты, для каго пішуцца кнігі? Для чытачоў!..

Галоўнае, каб абранне лаўрэатаў не насіла кулуарны характар!

**Алена Гушча, Мінск**

Дзеянне

# Абаронім нашых дзяцей ад алкагалізму

Больш чым у 40 гарадах пададзена каля 100 заявак на пікеты з такім лозунгам. Акцыю праводзяць Хрысціянскія дэмакраты.

Абвестка

# Летнік у Міры шукае валанцёраў

Шаноўныя сябры і калегі!

Працягваецца наш валанцёрскі летнік у Міры на каталіцкіх могілках. Калі маеце вольны час, запрашаем прыехаць да нас паваланцёрыць, бо працы як заўсёды болей, чым людзей. Знойдзем вам працу па здольнасцях і магчымасцях.

Мэты і задачы летніка: дапамагчы нешматлюднай мясцовай парафіі ў расчыстцы кустоўя і бур'яну на Мірскіх каталіцкіх могілках XIX ст., каталагізаваць могілкі (апісаць надгробкі, зрабіць іх фотаздымкі, расчытаць і занатаваць імёны, даты, эпітафіі), стварыць мапу пахаванняў (апрабуем прывязку да GPS), апрацаваць інфармацыю для размяшчэння на сайце niekropali.by.

Акрамя гэтага, плануецца культурная праграма адпачынку: экскурсіі, канцэрты.

Працоўны час — 6-7 гадзінаў.

Можаце прыехаць дапамагчы на любы тэрмін да канца гэтага тыдня (13 ліпеня).

Старонка Укантакце: vk.com/lietnikmir

Філасаф Міхаіл Баярын **распрацаваў шрыфт**, які складаецца з элементаў нацыянальнага арнаменту.

# Мова нанова

Міхаіл выкладаў санскрыт больш за 10 гадоў. Пэўны час нават вучыўся ў Індыі ў санскрыцкім універсітэце Сампурнананда. Яго зацікаўленасць шрыфтамі пайшла стуль.

У Міхаіла ёсць мара — стварыць непаўторнае нацыянальнае пісьмо, знакавую сістэму.

«Яна будзе берагчы наш сэнсавы рэсурс. Гэтую мару я паступова здзяйсняю, ствараючы шрыфты. У сакральным сэнсе шрыфт — гэта аброк, ахвяра багіні Радзімы. Бо «сакральны» насамрэч значыць «ахвярны».

Шрыфт «Берагіня» — дэкаратыўны і ўзнік на натхненні, праца над ім заняла некалькі гадзін.

**Міхась Баярын** (нар. 1978)

філосаф, выкладчык санскрыту. Аўтар зборніка вершаў «Шалёны вертаградар» (1998). Жыве ў Мінску. Па-беларуску можна пісаць кірыліцай, лацінкай (так пісаў Багушэвіч і малады Янка Купала) і арабіцай. Апошняе пісьмо выкарыстоўвалі беларускія татары-мусульмане, якія гаварылі па-беларуску, а запісвалі свае словы арабскай вяззю.



Гэта стылізацыя кірылічнага і лацінскага алфавіта пад узоры беларускага арнаменту.

Ён прызначаны для афармлення загалоўкаў, шыльдаў крамаў, візуальнай рэкламы, часопісаў, сайтаў.

Сам Міхаіл Баярын кажа: «Паэты маглі бы друкаваць такімі шрыфтамі свае вершы з паралельным тэкстам, бо гэта той выпадак, калі выгляд тэксту мае значэнне. Я хацеў бы, каб у Беларусі запанаваў выразны пазнавальны нацыянальны стыль».

Увогуле, «Берагіня» для філосафа — гэта частка большага праекта, Свамовы. «Гэта ідэал чыстай і словаўтваральна свабоднай беларускай мовы», — тлумачыць праект Міхаіл.

Пісьмо Свамовы будзе заснавана на нацыянальнай матрыцы знака, што выяўляецца ва ўзорах беларускага арнаменту. Яно будзе складацца з дзвюх частак. Першая — гэта марфалагічнае пісьмо, знакі якога будуць утвараць сэнс каранёў і афіксаў.

Такое пісьмо мае выразіць не знешні бок мовы, яе гучанне, а яе глыбокую сутнасць і будову. Другой часткай будзе фанематычнае пісьмо — для імёнаў уласных і слоў, якія неабходна перадаць гукава.

Акрамя «Берагіні», Баярын прыдумаў яшчэ адзін шрыфт — «Страла». Ён наследуе крыху іншы арнаментальны стыль. Тут утвараюцца і белыя, і чырвоныя ўзоры.

Таму шрыфт крыху менш чытэльны, каб яго чытаць, патрэбна адмысловая канцэнтрацыя.

Але ў перспектыве аўтар ідэі збіраецца зрабіць таксама больш чытэльны і скарапісны варыянт шрыфта, з формамі, якія магчыма будзе хутка пісаць рукой.

Абяцаецца нават флэш-анімацыя з урокамі пісьма.

Як кажа Міхаіл: «Увогуле, чытэльнасць — справа звычкі. Каб тое пісьмо, якім мы карыстаемся, стала чытэльным, мы патрацілі ў маленстве некалькі гадоў».

Таму таямнічасць шрыфта, на ягоную думку, толькі на карысць: «Зусім празрысты шрыфт быў бы нецікавы, але я паспрабую папрацаваць над яго чытэльнасцю. Проста дэкаратыўныя шрыфты звычайна не гоняцца за чытэльнасцю. Калі ж мы ўводзім новае пісьмо ці стыль — адразу дасягнуць чытэльнасці не ўдасца».

Да таго ж Міхаіл лічыць, што новыя шрыфты — выдатная гульня для беларускіх юнакоў і дзяўчат. «Філасаф Гейдар Джэмаль, якога я вельмі паважаю, сказаў выдатную фразу: «Ніколі не ўзняцца таму, хто інвеставаў свой сэнсавы рэсурс у чужую знакавую сістэму». Моладзі ў інтэрнэце такая інтэлектуальная гульня вельмі спадабалася.

**Вольга Гарапучык**

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| а | | з | | п | | ц | |
| б | | і | | р | | ч | |
| в | | й | | с | | ш | |
| г | | к | | т | | ь | |
| д | | л | | у | | ы | |
| е | | м | | ў | | э | |
| ё | | н | | ф | | ю | |
| ж | | о | | х | | я | |

Максім Багдановіч

**Добрай ночы, зара-зараніца**

Добрай ночы, зара-зараніца!
Ужо імгла над зямлёю лажыцца,
Чорнай рызай усё пакрывае,
Пылам зор небасхіл абсявае.
Цішыня агартае мне душу.
Вецярок прыдарожную грушу
Ледзьве чутна варуша-калыша,
Міла бомы смяюцца у цішы,
Ціха срэбрам грукае крыніца.
Добрай ночы, зара-зараніца!





# Завяршаецца эпахальная выстава

Эпахальная — бо, хочацца верыць, ад «Дзесяці вякоў мастацтва Беларусі» пачнецца новая эпоха, у якой беларускі бізнэс будзе ўкладаць сродкі і высілкі ў нацыянальную культуру. Выстава ішла ў Мастацкім музеі тры месяцы. Яе наведалі 24 тысячы чалавек. Зладзілі яе ААТ «Белгазпрамбанк» сумесна з ААТ «Газпрамтрансгаз Беларусь», Міністэрствам культуры і музеем.

«Мы прыйшлі ў Міністэрства культуры і папрасілі сабраць нараду з кіраўнікамі музеяў Беларусі. Мы сказалі ім: давайце пахвалімся самі перад сабой і ўсім светам, што мы зрабілі за гэтыя дзесяць стагоддзяў, — казаў на адкрыцці выставы старшыня праўлення «Белгазпрамбанка» Віктар Бабарыка. — Унікальнасць выставы ў тым, што ў нас ёсць культура Беларусі, дзеля якой мы, пры ўсіх нашых адрозненнях, аддамо ўсё самае лепшае, што ў нас ёсць».

Свой выступ банкір падсумаваў патрыятычным пасылам: «Пакуль у Беларусі будзе ідэя і думка, якая можа аб'яднаць нас, такіх розных, з розным мастацкім густам, палітычнымі ўпадабаннямі, векам і адносінамі, да тае пары была, ёсць і будзе наша бел-чырвона-белая сінявокая Беларусь. Жыве Беларусь!»

Дырэктар Мастацкага музея Уладзімір Пракапцоў назваў выставу праектам не года, а дзесяцігоддзя. Упершыню ў адной выстаўнай прасторы сабрана каля 500 прадметаў ад часоў Візантыі да сучаснасці з 29 музеяў краіны, карпаратыўных фондаў і прыватных калекцый.

Дыяментамі экспазіцыі сталі творы мастакоў з сусветнымі імёнамі. Упершыню мінчанам паказалі карціну Хаіма Суціна «Ева» (1928) — самы дарагі экспанат. Палатно было набыта на аўкцыёне Sotheby's у Нью-Ёрку за $1 млн 860 тыс. Таксама наведнікі ўпершыню змаглі паглядзець кнігу Сімяона Полацкага «Жазло праўлення» 1667 выдання, карціны Марка Шагала, створаныя ў перыяд росквіту творчасці вялікага мастака, а таксама працу Валенція Ваньковіча «Партрэт паэта Тамаша Зана».

Ёсць упрыгожанні пачатку тысячагоддзя з Вішчынскага скарбу, карціны, мэбля, скульптура розных эпох, цудоўная падборка неагістарычных карцін канца XX стагоддзя, нават шляхецкая канфедэратка і шабля. З шабляй загадка, дарэчы: яна пазначаная як шабля сярэдзіны XIX ст., але на лязе гравіроўка — MDCLV (1655 год) і імя караля Яна Казіміра. Выставе трохі не ставала гісторый, раскрыцця дэтэктываў, якія дадавалі б асабістага ўспрымання.



Хаім Суцін. «Ева» (1928)

Прыемна, што не абышлі габрэйскую, татарскую, стараверскую спадчыну — Тора, Кітабы, упрыгожаныя бісерам Евангеллі ляжаць у суседніх вітрынах са Скарынавай ды Брэсцкай «Бібліямі».

Да выставы быў распрацаваны каталог (папяровая і электронная версіі) і аўдыягід на трох мовах: беларускай, расейскай і англійскай. Іх куплялі, прычым электронныя больш ахвотна: быў прададзены 51 папяровы каталог, 243 каталогі ў электроннай версіі і 531 аўдыягід. Супрацоўнікі музея таксама ўвялі ў эксплуатацыю адмысловую мабільную версію сайта — сістэму QR-кодаў, якая дазваляе з дапамогай мабільнага тэлефона счытваць інфармацыю аб творы.

Трапіць на выставу яшчэ можна: яна экспануецца ў Мастацкім да 10 ліпеня. Не прапусціце! Поўны квіток каштуе 30 тысяч рублёў.

**Сяргей Мікулевіч**

# 3 ліпеня 1944-га: пра што

Піша **Анатоль Сідарэвіч**.



Партызанскі парад у Мінску.

Спачатку цытата з вучэбнага дапаможніка для X класа «Гісторыя Беларусі, 1917—1945 гг.» (2012): «У 1944 г. Чырвоная Армія нанесла шэраг ударaў па ворагу... У ліку гэтых ударaў быў і разгром гітлераўскіх войскаў на тэрыторыі Беларусі».

Як на каго, а на мяне так і патыхнула сталіншчынай. Праўда, заносіцца сталіншчына ў свядомасць школьнікаў кантрабандай, бо аўтар вучэбнага дапаможніка, Яўген Новік, абачліва не прыставіў да слова «ўдараў» азначэнне «сталінскіх», хоць, відавочна, і меў на ўвазе тыя «сталінскія ўдары».

«Дзесяць сталінскіх ударaў» 1944-га пры жыцці «бацькі народаў» павінны былі ведаць і школьнікі, і выдатнікі баявой і палітычнай падрыхтоўкі ў Савецкай Арміі, і камсамольцы ды члены партыі Леніна—Сталіна. Паводле гэтай ідэалагемы, Беларуская наступальная аперацыя, аперацыя «Баграціён», мела сярод «сталінскіх ударaў» нумар пяты. І вось, праз дзесяцігоддзі беларускія школьнікі зноў чытаюць не проста пра наступальную аперацыю, а пра адзін з «ударaў», якія Чырвоная Армія (РСЧА) нанесла «па ворагу».

### Пытанні без адказу

Тое, як асвятляе Я. Новік падзеі Другой сусветнай і нямецка-савецкай войнаў, заслугоўвае цэлай дысертацыі. У ягонай кнізе праўда перамяшаная з няпоўнай праўдай, няпраўда з замоўчваннямі, а ўсё гэта выканана ў духу сталінскай гістарыяграфіі.

Я, напрыклад, не знайшоў у гэтай кнізе адказу на пытанне: чаму РСЧА прыйшла ў Мінск на дзясяты дзень наступальнай аперацыі, а ад Мінска да Брэста ішла 25 дзён? І гэта пры тым, што на беларускім кірунку саветы мелі, як піша Я. Новік, жывой сілы ўдвая, самалётаў — амаль у 4 разы, танкаў і самаходных артылерыйскіх установак — амаль у 5 разоў, а мінамётаў і гармат — у 3,7 раза больш, чым праціўнік. Нейкае ўяўленне пра зацятасць баёў на захад ад Мінска дае гродзенская гісторыя. РСЧА падышла да Нёмана ў гэтым горадзе 16 ліпеня, а ў занёманскую частку перапраўлілася толькі 24-га.

Паўстае і такое пытанне: наколькі эфектыўныя былі дзеянні чырвоных партызанаў у нямецкім тыле, асабліва ў Заходняй Беларусі? І тут я не магу не ўспомніць эсэ партызанскага камандзіра Уладзіміра Калесніка «Час вызвалення», у якім ён прызнаваўся, што яны са сваімі «пукалкамі» не шмат маглі супраць рэгулярнай арміі.

Пішацца ў літаратуры і пра «катлы» 1944-га: Віцебскі, Бабруйскі, Мінскі... Браць праціўніка ў «кацёл» чырвоныя камандзіры навучыліся ў немцаў. І пры ўсім пры тым ім не ўдалося стварыць у Беларусі такі «кацёл», як немцам у 1941-м. Тады, нагадаю, Вермахт узяў у абцугі тры арміі, а адлегласць ад Брэста да Мінска адолеў за 6 дзён.

Калі ўжо згаданы Мінскі «кацёл», дык нельга не задаць і такое пытанне: а ці ўсе аточаныя немцы трапілі ў палон, ці не вырываліся асобныя падраздзяленні з акружэння да сваіх? Кажуць мне знаўцы, што тыя акружэнцы нават праз заняты саветамі Мінск праходзілі. Ды ў баявым парадку, а не панічна ўцякаючы. І чуў я, што немцы яшчэ колькі дзён пасля 3 ліпеня заставаліся ў асобных пунктах Мінска. А яшчэ, кажуць мне, пасля 3 ліпеня сталіцу БССР бамбілі доблесныя сталінскія сокалы. Праўда гэта ці няпраўда?

### Кірунак — Варшава, Берлін

Ведама, аўтар школьнага дапаможніка не абавязаны асвятляць усе гэтыя падзеі і даваць адказы на ўсе гэтыя пытанні. Не яму, а сабе я задаю і такое пытанне: чаму РСЧА не зрабіла немцам Беларускі «кацёл»? Паводле логікі, саветы павінны былі б разгарнуць у 1944-м наступальныя аперацыі перш ва Украіне і ў Балтыі. Выцесніўшы немцаў з Валыні, Латвіі і Літвы, РСЧА магла ўзяць у абцугі групу армій «Цэнтр» на чале з генерал-фельдмаршалам Эрнстам Бушам.

Той, хто глядзеў савецкі фільм «Вызваленне», пэўна, запомніў, як маршал Георгі Жукаў і генерал арміі Канстанцін Ракасоўкі «перακаналі» Сталіна, што галоўны ўдар па немцах трэба нанесці ў Беларусі: маўляў, нас там не чакаюць — а мы іх знянацку; да таго ж праз Беларусь пралягае самы кароткі шлях на Берлін. Пры гэтым і Жукаў і Ракасоўскі (маршалам стане 29 чэрвеня, калі РСЧА увойдзе ў Бабруйск) ледзь не ўчынілі Сталіну фронду. У што-што, а ў такое не верыцца. Гэта Эрых фон Манштайн, Герд фон Рундштэт, Вальтэр Модэль (28 чэрвеня замяніў Эрнста Буша) маглі пікіравацца з Гітлерам, а савецкіх генералаў, таго ж Ракасоўскага, які пабываў за кратамі і зведаў катаванні, 1937—1938 гады навучылі не пярэчыць «правадыру і настаўніку». Па-другое, маецца сведчанне самога Ракасоўскага, што ён ажыццяўляў задуму Вярхоўнага.

У чым была задума Сталіна? Адказ на гэтае пытанне трэба шукаць не толькі ў польскай і заходняй літаратуры, але і ў гісторыі бальшавізму ды ў перапісцы Франкліна Рузвельта, Іосіфа Сталіна і Уінстана Чэрчыля. Было відавочна, што Сталін паставіў далёкасяжныя мэты ў Цэнтральна-Усходняй і Паўднёва-Усходняй Еўропе. У прыватнасці, яго клопатам было ўсталяванне прасавецкага рэжыму ў Польшчы, а потым і ў Нямеччыне. А таму патрабавалася, каб РСЧА акупавала тэрыторыі гэтых краін. Гэтай мэце і былі падпарадкаваныя Беларуская і Львоўска-Сандамірская аперацыі РСЧА. Другая з іх («шосты сталінскі ўдар») пачалася 13 ліпеня.

Сталін дасягнуў свае першае мэты. Створаны ў Маскве 22 ліпеня Польскі камітэт нацыянальнага вызвалення апублікаваў тамсама (але напісана было, што ў Холме) маніфест. Гэтым маніфестам касавалася канстытуцыя Польшчы 1935 г., а польскі эміграцыйны ўрад быў абвешчаны самазваным і нелегальным. Легальнаю ж часовую ўладай Польшчы камітэт абвяшчаў сябе. Праўда, саюзнікі яшчэ змусяць Сталіна пайсці на пэўныя саступкі, але фундамент для ператварэння Польшчы ў савецкі сатэліт быў закладзены.

Праз тыдзень пасля польскай акцыі, у дзень завяршэння Беларускай і Львоўска-Сандамірскай аперацый, Сталін мог узнагародзіць сябе ордэнам Перамогі.

### Мэта апраўдвае сродкі. Апалогія сталінізму

Аўтар школьнага дапаможніка, Я. Новікаў, не піша пра далёкасяжныя мэты Сталіна. Ён праводзіць ледзь не «кіношную» версію Беларускай аперацыі. І робіць гэта з высокай доляй цынізму. «Тое, што кірункам галоўнага ўдару была выбрана Беларусь, — піша ён, — як і тое, што войскі 1-га Беларускага фронту змаглі прайсці праз палескія балоты і нанесці ўдар там, дзе вораг не чакаў, з'яўлялася, на думку нямецкіх генералаў, дзеяннямі «насуперак логіцы здаровага сэнсу». Але на вайне ёсць адна логіка — логіка перамагаць».

Помніце кадры з фільма «Вызваленне»? На Парычы ісці нельга, бо там немцы маюць моцную абарону, пойдзем «лявей», бо там балоты і немцы не гэтак акапаліся. І каб нейк «гуманізаваць» такое рашэнне, паказваюць ледзь не на ўвесь экран «макраступы», якія, маўляў, не дадуць чырвонаармейцам патануць у багне. Новік жа абыходзіцца без «макраступаў» і цалкам апраўдвае рашэнне штабоў гнаць байцоў праз балоты.

Чаму «гнаць»? А таму, што за перадавымі воінскімі падраздзяленнямі ідуць знакамітыя заградатрады, СМЕРШ, трыбуналы і пракуратуры са сваімі сахно і гарбацюкамі («Мёртвым не баліць» Васіля Быкава помніце?). Пра гэта ў беларускіх падручніках гісторыі не пішуць, затое, як відаць, кіруюцца вядомым выказваннем «пераможцаў не судзяць». І вось, Я. Новік сцвярджае: «Хто перамагае, у таго і «больш логікі», больш дасканалая ваенная стратэгія і тактыка».

### Пра што яшчэ не пішуць у падручніках?

Пішучы летась (глядзіце «НН» № 26 за 2013) пра тое, як дзякуючы наступальнай аперацыі саюзнікаў у Італіі саветам удалося дасягнуць поспеху пад Курскам і Белгарадам і ўзяць стратэгічную ініцыятыву на сябе, я не патлумачыў, чаму ў танкавай бітве пад Прохараўкай РСЧА было вельмі цяжка. Калі ў няўдачах савецкіх танкістаў і была віна генерала Паўла Ротмістрава, дык вельмі ўскосная. Галоўная ж прычына была ў тэхнічнай адсталасці. Мала таго, што «тыгры» былі моцныя танкі, — яны былі аснашчаныя перадавымі сродкамі сувязі. Гэта давала нямецкаму камандаванню магчымасць каардынаваць дзеянні як асобных экіпажаў, так і цэлых падраздзяленняў. Да таго ж знакаміты «Карл Цэйс» вырабляў класную оптыку.

Пераадолець тэхнічнае адставанне дапамагалі саветам Злучаныя Штаты і Злучанае Каралеўства. Яны паставілі больш як 45 тыс. радыёстанцый. Гэта дало магчымасць генералам Канстанціну Вяршыніну,

**Аперацыя «Баграціён» (Беларуская аперацыя)**

23 чэрвеня — 29 жніўня 1944. Адна з найбуйнейшых вайсковых аперацый у гісторыі чалавецтва. У яе выніку была вызвалена ад немцаў тэрыторыя Беларусі, усходняй Польшчы і частка Балтыі і разгромленая нямецкая група армій «Цэнтр». З савецкага боку ў ёй бралі ўдзел 1 млн 200 тыс. чалавек (без улікутылавых частак), з нямецкага — 850—900 тысяч (з іх 400 тыс. у тылавых частках). План аперацыі быў у тым, каб галоўны ўдар нанесці ў Беларусі і акружыць нямецкую групу армій усходней Мінска. У той час як нямецкае камандаванне чакала, што наступ савецкіх войскаў разгорнецца ва Украіне.

Людскія страты савецкага боку склалі 178 507 забітымі і 587 308 параненымі (для параўнання: падчас Берлінскай аперацыі загінула 81 тысяа салдатаў), з нямецкага боку было 26 397 забітых, 109 776 параненых, 262 929 палонных і зніклых.

# маўчыць падручнік

Мікалаю Скрыпко і Мікалаю Хрукіну падчас Беларускай аперацыі перанацэльваць блізкія і далёкія бамбавікі проста ў паветры. А калі дадаць да гэтага амерыканскія і брытанскія самалёты (іх было атрымана не менш як 21 тыс.)? Адначасова моцную падтрымку атрымала савецкая супрацьпаветраная абарона — больш за 2 тыс. радыёлакатараў і 8,5 тыс. зенітных гармат. Само сабой, новыя магчымасці з'явіліся і ў танкавых войскаў. І ў пяхоты, якая атрымала ад саюзнікаў больш як 400 тыс. тэлефонаў і за 2 млн км тэлефоннага кабелю. Да гэтага дадайма супрацьтанкавыя ружжы і гарматы, аўтаматычную стралковую зброю (больш за 133 тыс. адзінак), пісталеты, матацыклы, джыпы, грузавыя аўтамабілі (амаль 376 тыс.)... А яшчэ паравозы, вагоны і платформы. І медыкаменты з харчамі не забудзьма. І абутак (амаль 15,5 млн пар).

Памятайма таксама, што ў ліпені 1943-га саюзнікі адкрылі немцам другі фронт у Італіі, а за 17 дзён да Беларускай аперацыі пачалі наступальную аперацыю ў Нармандыі.

24 чэрвеня 1944 г. «Савецкая Беларусь» (так з кастрычніка 1941-га называлася «Советская Белоруссия») паведамляла, што напярэдадні РСЧА здзейсніла прарыў у раёне Віцебска, узяла Шуміліна і Сіроціна. 25 чэрвеня ў газеце з'явіліся загады Сталіна генералу арміі Івану Баграмяну (1-шы Прыбалтыйскі фронт) і генерал-палкоўніку Івану Чарняхоўскаму (3-ці Беларускі). З іх мы даведваемся, што гэтыя франты прарвалі абарону праціўніка на ўчастках шырынёю да 80 км і прайшлі каля 35 км наперад. Тым часам, чытаем мы ў «Савецкай Беларусі», саюзнікі штурмуюць крэпасць Шэрбур, іх авіяцыя ўчыняе налёты на чыгуначныя лініі і станцыі; працягвалася барацьба і на моры. Асобна цяжкія бамбавікі атакавалі нямецкія базы «самалёта-снарадаў» у раёне Па-дэ-Кале (13 чэрвеня немцы пачалі так званае беспілотнае бамбардаванне Брытаніі; у ваеннай тэхніцы пачыналася новая эпоха).

27 чэрвеня публікуюцца загады Сталіна генерал-палкоўніку Георгію Захараву (2-гі Беларускі) і генералу арміі Ракасоўскаму (1-шы Беларускі). У Захарава за 3 дні байцы прайшлі на 30 км і пашырылі прарыў да 75 км, узялі Чавусы. У Ракасоўскага на паўднёвым захадзе ад Жлобіна за 2 дні чырвонаармейцы прайшлі 30 км і пашырылі прарыў да 8 км фронту, а на поўнач ад Рагачова прарвалі паласу шырынёю 30 км і прайшлі 12 км. Таксама перарэзана чыгунка Бабруйск—Лунінец. У тым жа нумары газеты публікуецца загад Чарняхоўскаму, чые войскі авалодалі 26 чэрвеня Віцебскам. Тут жа і загад Ракасоўскаму, у якім адзначаецца, што 26 чэрвеня зноў савецкім стаў Жлобін. А тым часам на Заходнім фронце баі ідуць ужо на вуліцах Шэрбура. Паведамляецца таксама аб дзеяннях 5-й амерыканскай і 8-й брытанскай армій на італьянскім фронце. З італьянскай тэрыторыі цяжкія бамбавікі ўчыняюць налёты на нямецкія аб'екты ў Паўднёвай Францыі. У ноч з 25 на 26 чэрвеня саюзная авіяцыя ўчыніла налёт «на варожыя аб'екты ў Будапешце». У тую ж ноч на Заходнім фронце брытанцы бамбілі прамысловыя аб'екты непадалёк ад Дуйсбурга, а амерыканцы — масты на ўсход ад Парыжа і аэрадромы ў Брэтані.

27 чэрвеня, паведамляе «Савецкая Беларусь», узята Орша. Авіяцыя бамбіць станцыі Асіповічы, Полацк, Барысаў, Лунінец, Пінск. Саюзнікі ж узялі Шэрбур. У палон трапілі камандуючы войскамі шэрбурскага гарнізона генерал-лейтэнант Карл Вільгельм фон Шлібэн і камандуючы нямецкай марской абаронай контр-адмірал Вальтэр Генеке. Праўда, пра тое, што Сталін павіншаваў «доблесныя амерыканскія і брытанскія войскі з нагоды бліскучага поспеху», газета не паведамляе. Затое даведваемся, што робяць саюзнікі ў Італіі.

### Як яны вярталіся

Шмат пра што мы можам даведацца з газет 1944-га. Не тое што з падручнікаў. Шмат інфармацыі даюць і дакументы, якія захоўваюцца ў архівах.

Увесну 1944-га бальшавікі пачуваліся настолькі ўпэўнена, што ўжо пачалі фармаваць органы ўлады для пакуль што паднямецкіх абласцей і раёнаў Беларусі. Так, у маі бюро ЦК КП(б)Б прызначыла старшыню Вілейскага аблвыканкама і яго намесніка, кіраўніцтва Баранавіцкай вобласці, г. Баранавічы, Лідскага, Стаўпецкага, Мірскага, Слонімскага, Нясвіжскага, Ляхавіцкага, Валожынскага, Навамышскага, Клецкага, Наваградскага і Любчанскага раёнаў. 7 чэрвеня прызначаны 1-ыя сакратары Брэсцкага і Вілейскага абкамаў і начальнік НКГБ у Вілейскую вобласць. Было нават вядома, дзе будуць размяшчацца дарожна-эксплуатацыйныя ўчасткі (ДЭУ) упраўлення шашэйных дарог НКВД: Браслаў, Ашмяны, Гадуцішкі, Глыбокае, Маладзечна, Баранавічы, Наваградак, Шчучын, Ліда і нават Ломжа, Аўгустаў, Беласток, Саколка і Бельск, не кажучы пра Кобрын, Брэст, Высокае і Пружаны (а вось у Пінскай вобласці — пэўна, з прычыны палескага бездарожжа — адзін Пінск).

**Сталін імкнуўся ўсталяваць прасавецкі рэжым у Польшчы і Нямеччыне. Гэтай мэце была падпарадкаваная Беларуская аперацыя**

Не трэба думаць, што першыя сакратары абкамаў ды старшыні аблвыканкамаў так і кінуліся ў занятыя РСЧА абласныя і раённыя цэнтры. Спачатку туды следам за арміяй прыходзілі аператыўныя групы, якія складаліся з партыйных і савецкіх чыноўнікаў і з людзей НКГБ і НКВД. Такія групы для Мінска і Мінскай вобласці, для г. Барысава і кожнага раёна ў вобласці і Мінску бюро ЦК КП(б)Б стварыла 27 чэрвеня.

Бальшавікі разумелі, што на тэрыторыі, ачышчанай ад немцаў, яны могуць сустрэць супраціў. Таму за 10 дзён да аперацыі «Баграціён» бюро ЦК прыняло пастанову аб знішчальных батальёнах. Прадпісвалася, што такія батальёны сакратары гарадскіх і раённых камітэтаў, старшыні выканкамаў і начальнікі райаддзелаў НКВД павінны ўкамплектаваць да 30 чэрвеня. У кожны батальён належала мабілізаваць ад 100 да 200 чалавек. Камісарамі (намеснікамі камандзіраў па палітчастцы) належала прызначаць другіх або трэціх сакратароў гарадскіх і раённых камітэтаў партыі. Кіраўніцтва службай батальёнаў ускладалася на вайсковыя аддзелы партыйных камітэтаў і органы НКВД.

Што ж тычыцца ўрада БССР і кіраўніцтва КП(б)Б, дык аператыўная група СНК і ЦК была створана 3 ліпеня. У яе склад увайшлі намеснік старшыні Саўнаркама Іван Былінскі, сакратар ЦК камсамола Міхаіл Зімянін, наркам камунальнай гаспадаркі В. Забела, сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета Л. Папкоў, упаўнаважаны наркамату сувязі СССР у БССР Ф. Краўчук, намеснік наркама дзяржбяспекі П. Палітыка і намеснік наркама ўнутраных спраў І. Івашчанка. Вось гэтыя людзі і павінны былі рыхтаваць належную базу для вяртання і працы сваіх кіраўнікоў. Звяртае ўвагу тое, што ў аператыўную групу СНК і ЦК не ўвайшоў ніводзін высокапастаўлены партыйны чыноўнік.

### Дзве «неўміручыя» ідэалагемы

У бальшавікоў, якія вярталіся ў Мінск і раёны, было шмат першарадных задач. Але бальшавікі не былі б бальшавікамі, калі б не дбалі перш-наперш аб прамыўцы мазгоў. Як ім было не наладзіць вывучэнне ў школах і працоўных калектывах, у партыйных ды камсамольскіх арганізацыях кнігі Сталіна «Аб Вялікай Айчыннай вайне Савецкага Саюза»? Яна дапамагала выпрацаваць «правільны» погляд на падзеі. Што ў партыйных кабінетах гэты погляд даўно ўжо выпрацаваны, сведчыць апублікаваны 27 ліпеня доўгі ліст «Ад працоўных горада Мінска, ад мінскіх партызанаў і партызанак Вялікаму правадыру народаў — Вярхоўнаму Галоўнакамандуючаму Маршала Савецкага Саюза Іосіфу Вісарыёнавічу СТАЛІНУ». Ліст гэты прыняты на мітынгу 16 ліпеня. Мусіць, дзесяць дзён спатрэбілася на яго «падгонку». Мяне ж у гэтай гісторыі цікавіць, колькі сярод мітынгоўцаў было тых, хто выходзіў у 1942—1944 г. на першамайскія дэманстрацыі ў Мінску і вітаў «Гітлера-асвабадзіцеля».

Раней жа, чым ліст «Вялікаму правадыру», у партыйных кабінетах быў складзены «Зварот да Беларускага народа», падпісаны старшынёю Саўнаркама Панцеляймонам Панамарэнкам, старшынёю Прэзідыума Вярхоўнага Савета Нічыпарам Наталевічам і сакратаром ЦК КП(б)Б Пятром Калініным.

У гэтым лісце былі закладзеныя дзве ідэалагемы.

Першая з ідэалагемаў гучала так: «Партызанскі рух у Беларусі стаў усенародным». Гэтая ідэалагема будзе замацаваная ў складзенай для міністра дзяржбяспекі БССР Лаўрэнція Цанавы кнізе «Всенародная партизанская война в Белоруссии против фашистских захватчиков: Зарождение и развитие партизанского движения» (1949). З таго часу ніхто з савецкіх і постсавецкіх казённых гісторыкаў не мог і не можа адступіцца ад гэтае догмы.

Другая ідэалагема была на доўгі час пахаваная, пэўна, таму што была ўвязаная з імем Сталіна. Сфармуляваная яна гэтак: «Вечна будзе жыць бязмежная ўдзячнасць беларускага народа любімаму правадыру і настаўніку таварышу Сталіну і ўзначаленай ім Чырвонай Арміі, якая вызваліла і вярнула народу свабоду і незалежнасць».

Ведама, аўтары «Звароту да Беларускага народа», пішучы пра вяртанне свабоды і незалежнасці, мелі на ўвазе, што Беларусь стала «свабоднаю і незалежнаю» 1 студзеня 1919 г., калі быў апублікаваны Маніфест Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўрада Беларусі, або 11 ліпеня 1920 г., калі Чырвоная Армія выгнала палякаў з Мінска (да вайны менавіта гэты дзень урачыста адзначаўся ў БССР). І вось, у 1985 годзе ідэалагему пра тое, што вяртанне саветаў у Беларусь у 1944 г. азначала вяртанне незалежнасці, выцягнулі з архіва, сказілі і ўзвялі ў ранг афіцыёзу: дзень 3 ліпеня сталі адзначаць як свята незалежнасці.

Наколькі БССР была незалежнаю, ведае кожны. Тут жа хочацца нагадаць адзін факт. У «Советской Белоруссии» за 6 жніўня 1944 г. змешчана віншаванне Нічыпару Наталевічу з прычыны вызвалення Мінска. Але віншаванне адрасавана яму не як старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, а як намесніку старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. Не ведаю, ці сапраўды так напісана ў арыгінале. Спадзяюся, з часам гісторыкі знойдуць тэкст тае тэлеграмы, якую прэзідэнт Чэхаславацкай Рэспублікі і даўні сябар нашага народа Эдвард Бенеш пасылаў у Мінск. Тут жа больш важна адзначыць, што сам Наталевіч, пасылаючы тэлеграму Бенешу ў адказ, падпісаўся як намеснік старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. Нельга было яму выступаць у якасці «прэзідэнта» хоць бы і квазідзяржавы. Вось такую «незалежнасць» атрымала на справе Беларусь 3 ліпеня 1944-га.




**Анатоль Сідарэвіч**
нар. 1948. Гісторык. Даследчык гісторыі Беларусі XX стагоддзя і гісторыі нацыянальнага руху.

## ФУТБОЛ

### Тур 17

Працягваецца чэмпіянат Беларусі па футболе. 11 ліпеня гуляюць:
БАТЭ (Барысаў) — «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна).
12 ліпеня:
«Белшына» (Бабруйск) — «Дынама» (Мінск);
«Шахцёр» (Салігорск) — «Нёман» (Гродна);
«Мінск» — «Дняпро» (Магілёў).
13 ліпеня:
«Дынама» (Брэст) — «Слуцк»;
«Гомель» — «Нафтан» (Навапольцк).

### БАТЭ — «Скендэрбеу»

**15 ліпеня на «Барысаў-Арэне»** пройдзе гульня 2-га кваліфікацыйнага раўнда Лігі чэмпіёнаў паміж барысаўскім БАТЭ і албанскім «Скендэрбеу». Пачатак гульні а 20. Цана білетаў — 20-50 тысяч рублёў. У VIP-ложу — 150 тысяч.

## ІМПРЭЗЫ

### «Мой цвік»




**11 ліпеня а 19 у кнігарні «Галіяфы» (Валгаградская, 6)** адбудзецца прэзентацыя дэбютнага зборніка прозы Аляксея Палачанскага «Мой цвік». Падчас імпрэзы аўтар прачытае ўрыўкі са зборніка, распавядзе пра свае творчыя планы і нават зайграе ў складзе гурту Laudans. Гасцямі вечара стануць Ірына Шамко, Юрась Ускоў і Зміцер Калейчык.

### «Славянскі базар»

**Да 16 ліпеня ў Віцебску** будзе праходзіць міжнародны фестываль мастацтваў «Славянскі базар». Як заўсёды, галоўным гвалдом фэсту стане конкурс маладых выканаўцаў. Адметны «Славянскі базар» сёлета тым, што на яго ўпершыню за апошнія гады не запрасілі пераможцу «Еўрабачання» аўстрыйку Канчыту Вурст. Затое будуць папярэднія пераможцы: датчанка Эмілі дэ Форэст і беларускі нарвежац Аляксандр Рыбак. Таксама ў праграме шмат канцэртаў зорак рускай і беларускай папсы.

## КАНЦЭРТЫ

### Паліна Рэспубліка

**17 ліпеня ў клубе Re:Public (Прытыцкага, 62)** на адной сцэне выступяць тры самыя рамантычныя калектывы: Паліна Рэспубліка, NAVI і Tanin Jazz (Адліга). Пачатак а 19.

### A Hard Day's Night

**10 ліпеня ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** з нагоды 50-годдзя альбома The Beatles «A Hard Day's Night» выступае кавер-гурт The Apples.

### Naka

**11 ліпеня ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** сваё 10-годдзе адзначае гурт Naka. Пачатак а 19.






### Фэст у Тракелях

У дыяцэзіяльным санктуарыі ў Тракелях (Воранаўскі раён) 11–12 ліпеня адбудуцца ўрачыстасці, дэвізам якіх будуць словы «А пад крыжам Маці стаяла».
Праграма ўрачыстасцей наступная:
**11 ліпеня – пятніца**
21.00 — прывітанне крыжа і абраза Сусветных дзён моладзі;
21.15 — канферэнцыя;
22.00 — адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту;
23.00 — Крыжовы шлях вуліцамі Тракеляў.
**12 ліпеня – субота**
24.00 — св. Імша пастэрка;
02.00 — Ружанцовая малітва — Балесная частка;
03.00 — Вяночак да Божай міласэрнасці;
04.00 — канцэрт;
05.00 — Гадзінкі аб Беззаганным Зачацці Марыі;
06.00 — выкананне традыцыйных песень;
07.00 — падрыхтоўка да св. Імшы;
07.30 — св. Імша пад кіраўніцтвам святароў новапрэзбітэраў і юбіляраў;
08.30 — размова моладзі з біскупамі;
09.30 — падрыхтоўка да св. Імшы;
10.00 — адпустовая св. Імша, развітанне з крыжам і абразом Сусветных дзён моладзі.

## ВЫСТАВЫ

### Графіка Барбары Тытка і Марціна Бяласа

**Музей сучаснага выяўленчага мастацтва (Незалежнасці, 47)** экспануюцца графічныя работы польскіх мастакоў Барбары Тытка і Марціна Бяласа — творчых лідараў школы катавіцкай графікі, выпускнікоў Майстэрні глыбокага друку.

### Памяці Мінскага гета

**У Гістарычным музеі (Маркса, 12)** працуе выстава, прысвечаная ўшанаванню памяці Мінскага гета, аднаго з найвялікшых ва Усходняй Еўропе. Экспазіцыя складаецца з трагічных мастацкіх работ Лазара Рана, а таксама прадметаў Музея гісторыі і культуры яўрэяў Беларусі. У Мінскім гета было знішчана больш за сто тысяч чалавек. Сучасніку ж цяжка ўявіць увесь жах знаходжання ў гета... Выстава — чарговая спроба ўшанаваць памяць аб мінулым.

### Фотаздымкі для дакументаў

**З 10 ліпеня ў галерэі «Ў» (Незалежнасці, 37А)** працуе выстава прадстаўніка Каўнаскай школы фатаграфіі Вітаўтаса Станёніса «Фотаздымкі для дакументаў». 1946 год. Пасляваенны час. У акупаванай Літве новая ўлада замяняе пашпарты. У абсталяваным у доме Вазбуцкіса атэлье жыхароў Сейрыяй і ваколіц фатаграфуе Вітаўтас Станёніс. Праз гады сын фатографа знайшоў стужкі, і гэты матэрыял падаўся яму выключна цікавым.

## КІНО

### Ці ёсць жыццё пасля 60-ці

Глорыя
**Жанр:** драма, камедыя
**Рэжысёр:** Себасцьян Лелія
**У ролях:** Паўліна Гарсія, Серхіа Эрнандас, Дыега Фантэсілья, Фабіола Самора, Лус Хімэнас
Чылі, Іспанія, 110 хв.

Глорыя, 58-гадовая разведзеная жанчына, жыве адна: яе дарослыя дзеці пакінулі дом, а муж сышоў яшчэ раней. Але яна не хоча марнаваць каштоўныя хвіліны жыцця і кідаецца ў вір аднаразовых задавальненняў. На адной з вечарынаў Глорыя сустракае Радольфа — 65-гадовага былога марскога афіцэра, таксама разведзенага. Але былая сям'я Радольфа, цалкам ад яго залежная, не адпускае яго, хоць з Глорыяй мужчыну цяпер звязваюць рамантычныя адносіны.
Павольны тэмп фільма паказвае простае жыццё немаладых людзей, трапна і з гумарам адлюстроўвае нюансы чалавечых паводзінаў. Незвычайнасць фільма складае не толькі ўзрост галоўнай гераіні, але і нехарактэрны стыль жыцця людзей сталага веку. Глорыя ў свае 58 гадоў — прывабная жанчына. Вызваленая ад хатніх абавязкаў, яна на ўсю моц атрымлівае асалоду ад жыцця. Стужка ламае стэрэатыпы — у такім ключы найчасцей здымаюць фільмы пра маладзёнаў.

**Настасся Уласава**



# «У Грэцыі ёсць ўсё!»

Уяўленне пра казачную паўднёвую краіну, дзе ўсе жывуць, як у раі, панавала да 2010 года. А потым здарыўся крызіс, і экраны ТБ запаланілі незадаволеныя збяднелыя грэкі. А як жывуць сёння дзеці Элады?


Грэцыя прыцягвае турыстаў цёплым морам і старажытнай гісторыяй.

**Цэны на рынку ў Салоніках** (у рублях за 1 кг):

аліўкі — ад 56 000,
чарэшні — ад 21 000,
клубніцы — 16 000,
абрыкосы і нектарыны — 14 000,
дыня — 28 000,
куры — 36 000,
філе курынае — 75 000,
дзясятак яек — 16 000,
таматы — 11 000,
ласось — 150 000,
карп — 70 000.
Сэрэдні заробак чыстымі 818 еўра=11 млн 900 тысяч на беларускія.

### Рай для археолага

Нашага першага суразмоўцу клічуць Панаёціс. Па адукацыі ён гісторык. Вучыўся ў СССР, абараніў там кандыдацкую дысертацыю, але стаў не даследчыкам, а экскурсаводам. Кажа, што ўсе чыстыя навукоўцы — бяссрэбранікі. Добра зарабляюць толькі археолагі. Бо ўся Грэцыя — адны суцэльныя раскопкі. Рэшткі антычнасці можна знайсці паўсюль. Напрыклад, цяпер у Салоніках пачалі будаваць метро (дарэчы, агароджа мінімальнай вышыні і ўся праца вядзецца на вачах гараджан). А дзень працы археолага каштуе 150 еўра. Калі ў камандзе чатыры чалавекі — кожны атрымае па 100 еўра.

Пытаюся, а колькі, на яго думку, трэба зарабляць у Грэцыі? «Калі сям'я складаецца з мужа, жонкі і двух дзяцей, на добрае жыццё хопіць 2 тысяч еўра на месяц, — адказвае Панаёціс, — праўда, гэта няпроста. Сярэднія заробкі ў прыватным сектары цяпер складаюць 700—800 еўра. У дзяржаўным — крыху менш».

### «Камуналка» — тысяча еўра

На што ідуць заробленыя грошы? У першую чаргу — на камунальныя плацяжы. Яны выплочваюцца раз на чатыры месяцы (на пачатку кожнага трэба ўнесці аванс). «У сярэднім «камуналка» за месяц складае 1000 еўра. Таму эканомія ў мясцовых жыхароў у крыві, — кажа Панаёціс. — Калі грэк чысціць зубы — кран выключаны». Яшчэ адна прычына: недахоп вады ў гарадах (у сельскай мясцовасці яе заўжды дастаткова). У 1960—1970-я гады ў Афінах вада наогул падавалася ў асобныя гадзіны. А вось цэнтралізаваная сістэма ацяплення ў Грэцыі адсутнічае. Таму яе ўстаноўкай і падтрыманнем на належным узроўні займаюцца або гаспадары, або спецыяльныя кампаніі. Наогул, асноўныя грошы ідуць на два падаткі — на нерухомасць і на электрычнасць. Абодва выплочваюцца раз на год. Але калі ты забыўся пра першы, можаш застацца без святла.

### Занятасць — палова года

Як і шэраг паўднёвых краін, Грэцыя жыве па законах турыстычнага сезона, які заканчваецца ў кастрычніку. З таго часу і да вясны будынкі шматлікіх гатэляў стаяць пустыя. «Хадзіць па іх страшна, — кажа Варвара, супрацоўніца адной з турыстычных кампаній. — І сам баішся. І цябе баяцца».

Увесь гэты час людзі, занятыя ў турыстычнай сферы, з'яўляюцца беспрацоўнымі. «Раней, да крызісу, мы працавалі шэсць месяцаў, — расказвае Варвара. — У кастрычніку нас звальнялі, і мы станавіліся на біржу працы. Але праз яе мы кожны месяц атрымлівалі дапамогу — 550 еўра. Перад звальненнем супрацоўніка кіраўніцтва выплочвала яму сёмую зарплату. Яшчэ адна зарплата (так званая трынаццатая) выплачвалася на Новы год». Але пасля крызісу ад такіх падарункаў дзяржава адмовілася. Дапамога складае 360 еўра. Варвара кажа, нібыта ў парламенце плануюць прыняць закон: уладальнік кватэры або машыны дапамогі не атрымае.




### Альфа, бэта і гама

Грэкі ганарацца сваёй сістэмай адукацыі. Яна цалкам бясплатная. І хоць існуюць прыватныя ВНУ, іх дыпломы ніяк не кацірующца на рынку. Панаёціс, які сам сем гадоў папрацаваў у школе, кажа пра адукацыю з энтузіязмам. Ды яшчэ і падкрэслівае: няхай бы беларусы пераймалі наш досвед!

Працягласць сярэдняй адукацыі ў краіне — дванаццаць гадоў. Шэсць гадоў грэкі вучацца ў школе, тры — у гімназіі і тры — у ліцэі (гімназіямі і ліцэямі называюць усе навучальныя ўстановы, а не самыя лепшыя, як у нас). Галоўнае ў школе — веды, а не адзнакі. Таму 20-бальная сістэма («дваццаць» — самая высокая адзнака) дзейнічае толькі ў старэйшых класах. У пачатковай школе — «дзесяцібалка», прычым ніжэй за «шэсць» не ставяць. А ў першых чатырох класах адзнакі ўсяго тры — «альфа», «бэта» і «гама».

Праца выкладчыкаў ацэньваецца ў Грэцыі высока. Школьныя настаўнікі могуць разлічваць на 1000 еўра ў месяц (выкладчыкі ў ВНУ — на 1,5—2 тысячы еўра). Прычым менавіта яны складаюць пытанні да выпускных іспытаў у школе, якія адначасова з'яўляюцца ўступнымі ў ВНУ. Чыноўнікі запрашаюць у Міністэрства адукацыі найлепшых выкладчыкаў з усёй краіны. У час, пакуль яны распрацоўваюць заданні, ніхто не можа выйсці на вуліцу. Зразумела, усе сродкі сувязі мусяць быць адключаны.

### Універсітэты — без паліцэйскіх

Дзень кожнага іспыту — адзіны для ўсіх школьнікаў Грэцыі (усяго грэкі здаюць 12 прадметаў). Ля ўвахода ў школы іх чакае праверка (ніхто са старонніх не можа трапіць у будынак). Усе школьнікі атрымліваюць адзін і той жа варыянт, які выбіраюць шляхам лёсавання. Праверка працы цягнецца паўтара месяца! Два выкладчыкі ацэньваюць кожную працу па 100-бальнай сістэме. Сярэдняе арыфметычнае складае выніковую ацэнку. Але калі розніца паміж дзвюма ацэнкамі большая, чым 10 балаў, склікаецца спецыяльная камісія. Потым выпускнікі школ рассылаюць свае атэстаты ў ВНУ краіны. Тых, хто мае лепшыя вынікі, залічваюць у больш прэстыжныя ўніверсітэты. Дарэчы, ВНУ не маюць да ўступнай кампаніі ніякага дачынення.

Праўда, не ўсе ставяцца да ўніверсітэтаў з належным піетэтам. Адзін з мінакоў, паслухаўшы расповед нашага чаргавага экскурсавода, з раздражненнем кідае па-руску: «Вядома, што-небудзь кінуць у паліцэйскіх — і адразу бягуць сюды хавацца». Высвятляецца, паветра ўніверсітэтаў сапраўды робіць людзей вольнымі. Толькі задаволены гэтым не ўсе.

Калі ў сярэдзіне 1970-х грэкі скінулі дыктатуру «чорных палкоўнікаў», вялікую ролю ў гэтым адыгралі студэнты. Каб адзячыць ім, новая ўлада выдала закон. Згодна з ім, вайскоўцы і паліцэйскія не могуць знаходзіцца на тэрыторыі ўніверсітэтаў без дазволу адміністрацыі. Таму сучасныя анархісты звычайна праводзяць свае акцыі побач з ВНУ. А потым хуценька хаваюцца на іх тэрыторыі — і застаюцца непакаранымі.

### Футбол побач з храмам

Вандруючы сярод дня ў цэнтры Салонікаў, заўважаеш, што ўсе кавярні занятыя. Прычым ніхто нікуды не спяшаецца. «Дык у вас жа крызіс?! Адкуль столькі грошай?» — пытаюся я ў Варвары. «Усе п'юць фрапэ», — адказвае яна. Фрапэ — гэта халодная кава, якая змяшчае ў сабе амаль 10 кубкаў таго напою, які мы ўжываем штодня. Але грэкі разводзяць фрапэ вадой і могуць піць яе цэлы дзень. «Кубак каштуе некалькі еўра, — кажа Варвара. — Адзін еўра дастаў з кішэні, другі папрасіў у сваякоў, трэці пазычыў у сяброў. Вось і хапае». Такое баўленне часу — яшчэ і цудоўны сродак псіхатэрапіі. «У адрозненне ад іншых народаў, грэкі ніколі не ходзяць да псіхатэрапеўтаў. Замест іх ёсць сябры і фрапэ».

Цікава, што да кавярняў грэкі звычайна прыязджаюць на ўласных машынах. Аўто мае кожны паўналетні член сям'і. Месцаў на паркоўках заўжды не хапае. Таму машыны ставяць адразу ў тры шэрагі. Таму чуткі пра крызіс моцна перабольшаныя.

Бестурботнасць грэкаў праяўляецца нават у вайсковай сферы. Уявіце сабе дарогу да гары Алімп, на якой рухаецца турыстычны аўтобус. А побач з ёй праходзяць вайсковыя вучэнні. Бачныя макеты танкаў. Камандзір тлумачыць узводу салдат, як страляць па мішэнях.

Больш за ўсё падчас вандроўкі ўражвае рэлігійнасць грэкаў. Але іх вера зусім не падобная да беларускай. У нас часцей сустракаеш або рэлігійны фанатызм, або абыякавасць, схаваную за веданнем і выкананнем абрадаў. А ў грэкаў вера — частка іх жыцця. Уздоўж кожнай дарогі стаяць капліцкі, памерам у рост дзіцяці (а часам і дарослага). Унутры — іконы. Спыняцца каля такіх храмаў не абавязкова. Бог і так побач з кожным падарожнікам.

Дарэчы, для таго, каб наблізіць царкву да жыцця, грэкі на пачатку XX стагоддзя правялі рэформы. Цяпер жанчыны могуць заходзіць у царкву без хусткі. А ў храмах вернікі слухаюць святароў седзячы, як у касцёлах.

Але грэкі не толькі праваслаўныя. Яны яшчэ і спадчыннікі герояў Антычнасці, якія на роўных размаўлялі з багамі. Таму назіраеш сітуацыю, у нас немагчымую: хлопцы з Салонікаў іграюць у футбол ля самага храма Святой Сафіі.

**Дзяніс Марціновіч, Салонікі — Мінск**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Парад на 3 Ліпеня праходзіў сёлета ў вечаровы час. Ён сабраў рэкордную лічбу гледачоў — каля 200 тысяч. Апроч традыцыйнага параду вайсковай тэхнікі, быў і тэатралізаваны паказ, часткай якога сталі народныя танцы.**



НАСТАССЯ ХРАЛОВІЧ

**5 ліпеня на хутары «Шаблі» адбыўся чарговы летні этнафэст «Вольнае паветра». Адметнасцю сёлетняй падзеі стала вялікая колькасць беларускай і ўкраінскай сімволікі.**



**На «Уімблдоне» Вікторыя Азаранка змагла прайсці толькі адзін раўнд. Цяпер тэнісістка апусцілася на 10-ы радок сусветнага рэйтынгу. Пасля няўдачы ў Вялікабрытаніі Віка на пару дзён завітала ў Мінск.**




**На чэмпіянаце свету па паяданні хот-догаў перамагла 28-гадовая японка Мікі Судо. Яна з'ела 34 хот-догі.**



## Анекдоты і жарты

* * *

— Тата, а ў цябе ў дзяцінстве быў планшэт?

— Не, тады і камп'ютараў не было зусім.

— А на чым ты тады гуляў?

— На вуліцы.

* * *

Пуцін заявіў, што расійскіх футбалістаў у Бразіліі не было, а форму можна купіць у любой краме.

* * *

Прамова прэзідэнта Беларусі на мове такая падзея, што вартая прыза на AD.NAK! — фестывалі беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі. У намінацыі «Упакоўка»

* * *

— У Расіі вярнулі зімовы час.

— Розніца з Еўропай цяпер будзе 3 гадзіны?

— Розніца з Еўропай прыкладна 200 гадоў.

* * *

Большасць нумароў я запісваю выключна таму, каб у далейшым ведаць, калі не браць слухаўку.

* * *

— Сынок, чаму пляшка з віскі напалову пустая?

— Бо ты песіміст, тата.

* * *

Прыкмета, што ты дамогся чагосьці ў жыцці: з табой вітаюцца, а ты іх не ведаеш.

## «НН» сто гадоў з вамі

**У пяці паветах Міншчыны** шырыцца сібірская пошасць, хварэюць і падаюць каровы і коні. Пошасць шпарка разрастаецца. У Мінскім павеце закрытыя ўсе кірмашы, торжышчы і інш., каб пастрымаць шырэнне пошасці.

**«НН». №27. 1914.**

**Студэнтаў філфаку Яўгена Скрабутана і Алеся Курсевіча** 2 ліпеня выключылі з Гродзенскага ўніверсітэта. На сцяне навучальнага корпуса і асфальце юнакі напісалі словы «Зубр» і «Спыніць русіфікацыю», за што былі затрыманыя міліцыянтамі. Цікава, што затрымлівалі іх былы студэнт філфака таго ж універсітэта, які пайшоў служыць у міліцыю.

**«НН». №25. 2004.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7250. Газета выдаецца 48 разоў на год.

Нумар падпісаны ў друк 16.30 24.06.2014.

Замова №2797.

Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.

Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

9 771819 161008 14025